
Даследаванне меншасці → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Кірыліцай пісанае → 4


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 50 (3109) Год LX | Беласток, 13 снежня 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Падвядзенне вынікаў XXII Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі і адкрыццё конкурснай выставы адбылося 4 снежня ў галерэі і вялікім калідоры Гайнаўскага дома культуры — арганізатара мерапрыемства. Народныя мастакі і мастакі-аматары з Гайнаўшчыны маюць такім чынам магчымасць штогод паказваць свае новыя працы.**

# НЕПРАФЕСІЙНЫЯ МАСТАКІ ГАЙНАЎСКАЙ ЗЯМЛІ



■ Першую ўзнагароду ў катэгорыі «Разьба» атрымаў Міхал Коц (злева), а другую ўзнагароду — Мікола Ягадніцкі (справа). Віншуюць іх бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч



■ Удзельнікі агляду, арганізатары і госці. Першы справа — пераможца ў катэгорыі «Жывапіс» — Славамір Рыбак, а другі справа — пераможца ў катэгорыі «Рысунак» — Януш Кулеша

У гмінах Гайнаўскага павета жыве многа здольных людзей, якія займаюцца мастацкай творчасцю. Жывапісцы і разьбяры з Гайнаўкі гэта таксама найчасцей выхадцы з навакольных вёсак у першым або другім пакаленні. Таму матывы на прэзентаваных падчас аглядаў працах часта звязаны з прыродай, Белавежскай пушчай. Паяўляюцца матывы сельскага жыцця і працы на полі. Паказваюцца таксама нацюрморты, партрэты, матывы горада, унутраныя перажыванні.

— Матывам, які найчасцей паяўляецца на працах гайнаўскіх мастакоў з'яўляецца прырода, асабліва Белавежская пушча. Ацэньваючы конкурсныя працы мы стараліся не звяртаць увагу на нашы індывідуальныя прэферэнцыі, толькі глядзелі на варштат працы непрафесійных мастакоў і ўзровень выканання мастацкіх работ. Звярталі ўвагу на экспрэсію прац і важныя нам уражлівасць і ангажаванасць творцаў, — заявіў мастак-разьбяр родам з Гайнаўкі і заадно старшыня журы прафесар Яраслаў Пэршка, які з'яўляецца выкладчыкам Політэхнічнага інстытута ў Беластоку. Разам з ім у журы засядалі Крыстына Куніцкая і Ліля Вышкоўская з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку. Мерапрыемства адкрыў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які звярнуў увагу на высокі ўзровень конкурсных прац.

— Агляд непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі гэта вельмі важнае мерапрыемства ў нашым горадзе, якое арганізуецца ажно дваццаць другі раз. З году ў год ацэньваюцца і прэзентуюцца на выставе штораз дасканальшыя мастацкія працы. Я рады, што наш мастак Яраслаў Пэршка знаходзіць час і згаджаецца старшынстваваць конкурснай камісіі, — сказаў бургамістр Ежы Сірак.

Дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч прывітаў сабраных і падзякаваў удзельнікам агляду за чарговы ўдзел у конкурсе. Мерапрыемства вяла мастацкі кіраўнік ГДК Ядвіга Лях-Кучкін, а за арганізацыю агляду адказная была старэйшы інструктар па справах мастацтва ГДК Зінаіда Якуць. Удакладніла яна, што на агляд 106 прац выканалі 27 непрафесійных творцаў, а на выставу былі кваліфікаваныя 69 работ. Сярод прапанаваных прац найбольш было жывапісу і разьбы. Многія работы, выкананыя ў гэтых тэхніках, вылучаліся высокім узроўнем. На конкурснай выставе можна было ўбачыць таксама рысункі і працы, выкананыя ў мяшанай тэхніцы. Перад абвяшчэннем рэзультатаў працы журы з песенным рэпертуарам выступіла выпускніца Гайнаўскага белліцэя і шматгадовая спявачка Студыі песні ГДК Юліта Ваўрашук, лаўрэатка шматлікіх конкурсаў.

Лаўрэатам першай узнагароды ў катэгорыі «Жывапіс» стаў Славамір Рыбак з Нурца-Станцыі Сямятыцкага павета (да конкурсу прыступаюць таксама паасобныя мастакі з суседніх паветаў). Другое месца заняў Станіслаў Паскробка, а трэцюю ўзнагароду атрымала Дыяна Янчук з Навасадаў. Галоўную ўзнагароду атрымаў Славамір Рыбак за карціну «Расна, пах лета», выкананую на ўскраіне Белавежскай пушчы ў Рэспубліцы Беларусь.

— Я свае працы прэзентаваў на выставах у розных гарадах — у Беластоку, Катавіцах, Скерняўіцах, Варшаве, Белай-Падляшскай, Ольштыне, Седльцах і Гданьску. У апошнім перыядзе многа працаваў у Рэспубліцы Беларусь. Мае работы паказваліся на выставах у Брэсце, Жодзіне, Камянюках і ў Белавежскай пушчы, каля сялібы Дзеда Мароза. На маіх працах, прэзентаваных на гэтай выставе, намаляванае возера Расна, але па-рознаму я паказваю святло. Раней я маляваў краявіды статычныя, а апошнім часам стаў маляваць краявіды, на якіх на першым плане адбываецца рух, што бачым і на гэтых маіх работах. На гайнаўскім аглядзе я многа разоў займаў першыя і іншыя прызавыя месцы. Мне падабаецца атмасфера конкурсу, — расказваў Славамір Рыбак.

У групе вылучаных жывапісцаў быў Мікола Януўскі са Старога Беразова, які многа разоў выконваў работы на гайнаўскі агляд, займаў у ім першае і іншыя прызавыя месцы. На сёлетні конкурс прывёз ажно 5 карцін. Дзве яго працы красаваліся на выставе, а сам мастак заявіў, што ёсць ужо ахвотныя купіць некаторыя конкурсныя карціны. Тамара Кердалевіч з Чаромхі, таксама шматгадовая ўдзельніца гайнаўскага агляду і яго лаўрэатка, вылучэнне атрымала за прыгожы букет кветак. Адзіная ўзнагарода была ў катэгорыі «Рысунак» і атрымаў яе Януш Кулеша з Цісоўкі.

— Я малюю здаўна. Жывапіс — асноўны від маёй творчасці. Выконваю таксама рысункі. На выставе прэзентуюцца мае рысункі жанчын і пастэльная праца з дзяўчынай, — сказаў Януш Кулеша.

Яцак Некраш атрымаў узнагароду ў катэгорыі «Іншыя тэхнікі». Мастак з выкананнем чыста абстрактных прац перайшоў да работ менш абстрактных. Прэзентаваныя на выставе працы адлюстроўваюць яго ўнутраныя перажыванні. Вылучэнне ў гэтай катэгорыі атрымала таксама Францішка Каліноўская за кампазіцыю з кветкамі.

— У Славаміра Рыбака вельмі добрая тэхніка працы. Можна сказаць, што ён свае карціны выконвае ўжо прафесійна, умела гуляючы святлом. У Станіслава Паскробкі таксама вельмі добры варштат працы. Умела гуляе ён колерамі. Хаця яго ўзнагароджаная работа намаляваная ў тэхніцы акрыль і відаць на ёй нацюрморт, то гэтая праца так дасканалая, што далі за яе другую ўзнагароду. Дыяна Янчук часта малюе краявіды і мы ўзнагародзілі яе за цікавы зімовы краявід з аленем, — адзначыў старшыня конкурснай камісіі Яраслаў Пэршка.

Першую ўзнагароду ў катэгорыі «Разьба» атрымаў Міхал Коц за кампазіцыю «Гуляйма, покі ёсць час».

— Мае постаці — у руху. Мужчына і жанчына іграюць на акардэонах, а чатыры асобы танцуюць пад іх музыку, — сказаў Міхал Коц, пераможца папярэдніх аглядаў.

Другую ўзнагароду прызначылі Міколу Ягадніцкаму, родам з Чыжоў, які ўдала выканаў скульптуру з сакральнымі тэмамі.

— Нядаўна я прэзентаваў сваю скульптуру на індывідуальнай выставе ў Беластоку. На агляд падрыхтаваў я выяву Хрыста і анёла, — заявіў Мікола Ягадніцкі, які раней перамагаў на аглядах непрафесійнага у Гайнаўцы і Беластоку. Раўнапраўнае трэцяе месца занялі Мікола Корх з Кархоў каля Вітава і Мячыслаў Дудзін.

— Я найахвотней займаюся караняпластыкай і стараюся як найменш абрабляць карэнне долатам. На агляд падрыхтаваў я цікавае карэнне і кавалак драўніны з дуплом, з якіх паўстала паказаная тут скульптура, — заявіў Мікола Корх.

— Міхал Коц валодае добрай тэхнікай. Сёлета захапіў ён нас, выконваючы постаці, якія састаўляюць адну цікавую кампазіцыю. Мікола Ягадніцкі таксама дайшоў да добрай тэхнікі разьбы і выканаў цікавыя постаці. А Мікола Корх добра ўмее вышукваць карані рознага кшталту, з якіх пасля ўдала выконвае цікавую разьбу. Гэта асаблівая ўмеласць, — сказаў старшыня журы Яраслаў Пэршка.

Асобную катэгорыю ў аглядзе састаўлялі «Творцы-інваліды». Індывідуальныя ўзнагароды ў гэтай катэгорыі атрымалі Барташ Шпаковіч з Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы і Марк Сакоўскі з Павятовага асяродка дапамогі ў Гайнаўцы, за працу выпаленую ў драўніне. Зося Цвікоўская, Кшыштоф Юрчак і Януш Лісевіч з гэтага асяродка атрымалі калектыўную ўзнагароду за работы выпаленыя ў драўніне.

— Наш Бартак Шпаковіч выконвае цікавыя працы ў тэхніцы акрыль. Ён — лаўрэат шматлікіх конкурсаў і тут таксама атрымаў узнагароду, — заявіла яго апякунка Іаанна Плева. Гарадская публічная бібліятэка ў Гайнаўцы арганізавала індывідуальную выставу работ Барташа Шпаковіча.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**


9 770546 196000



# Дэжавю

Свет не стаіць на месцы. Усё ў ім імкліва мяняецца. Вось ужо туркі збіваюць расійскі самалёт, а Нямеччына ўступае ў вайсковую кааліцыю супраць невядома адкуль узнікшай Ісламскай дзяржавы. Два апошнія разы, як Нямеччына ўступала ў вайну, гэтыя войны станавіліся сусветнымі, доўгімі, жудаснымі і надзвычай кровапралітнымі. І няма аніякіх падстаў меркаваць, што гэтым разам будзе па-іншаму. Ну, а як туркі пачыналі біцца з рускімі, то гэта заўсёды было „ўсур'ёз і надоўга".

Кіраўнік Расіі Уладзімір Пуцін у сваёй штогадовай прамове перад дэпутатамі ані разу не ўспомніў пра Украіну. А ў мінулым годзе гэта была асноўная тэма яго выступу. Як усё кардынальна памянялася ўсяго за адзін год. І толькі ў Беларусі не мяняецца нічога. Тут, як кажуць у народзе, „поўны стабілізец".

Часамі здаецца, што ўвесь народ хварэе сіндромам дэжавю, бо тут усё штогод паўтараецца да драбніц. Складваецца ўражанне, што гэта ўсё ўжо было, што ты гэта ўжо бачыў, ужо перажыў, а яно зноў тут як тут. І толькі каляндар нагадвае, што гэты абсурд стаў старэйшым яшчэ на цэлы год.

Вось і ў Свіслачы, невялікім раённым цэнтры Гарадзеншчыны, год заканчваецца традыцыйнымі для гэтай мясцовасці судамі над удзельнікамі мерапрыемства, прысвечанага памяці паўстанцаў 1863 года. Ну і суды праходзяць як бы ў відэазапісе. Усе адзін у адзін як і ў мінулым годзе.

— У вас што, ксеракса няма? — пажартаваў я ў перапынку з адной працаўніцай суда.

— Чаму, ёсць у нас ксеракс, — здзіўлена адказала яна.

— Ну то чаго вы пакутуецеся з вядзеннем пратакола, — смяюся я. — Узялі б мінулагодні ды адксерылі. Усё ж паўтараецца слова ў слова.

І сапраўды. Нават сумна неяк. Ужо нават і не смешна. Хоць пасмяяцца нібыта ёсць з чаго.

— Чаму вы не папярэдзілі мяне, што я нешта парушаю ў той жа момант, як я пачынаў нешта парушаць? — пытаюся я ў міліцыянта, які ў гэты дзень па сумяшчальніцтве падпрацоўваў ілжэсведкам, які смела распісаўся ў пратаколе суда што будзе гаварыць праўду, усю праўду і нічога акрамя праўды. Яго фальшывыя сведчанні ўдалося даказаць, прагледзеўшы відэахроніку мерапрыемства. Суддзю гэта зусім не здзівіла. Відаць, яна яго не першы дзень ведае. — Вы ж як супрацоўнік міліцыі мусіце папярэджваць грамадзян, калі яны нешта парушаюць. Можа я тады зразумеў бы злачыннасць сваіх учынкаў і перастаў бы парушаць заканадаўства. Вось бы і справа да суда не дайшла б.

Міліцыянт пачаў абдумваць свой адказ мне. Але пасля, хіба зразумеўшы што на абдумванне сэнсу пытання пойдзе зашмат часу, адказаў проста:

— Гэтае пытанне да справы не адносіцца.

Відаць і сам міліцыянт сябе добра ведае. А не толькі суддзя.

— Мяне судзяць за тое, што я трымаў у руках бел-чырвона-белы сцяг, — гаворыць Эдвард Дмухоўскі, якога ў гэты дзень таксама судзілі па гэтай жа справе. — Вось таму я хачу даведацца, дзе і ў якім законе напісана, што я не маю права трымаць у руках сваю нацыянальную сімволіку. Пакажыце мне гэты закон, можа я тады ўсё абдумаю і перастану яго парушаць у будучым.

— Гэтае пытанне да справы не адносіцца, — заяўляе на гэты раз суддзя, зразумеўшы, што для афіцэра міліцыі, якога злавілі на фальшаванні фактаў у судзе, гэтае пытанне надта складанае.

Мы больш пытанняў не задаём. Шкада часу. Усядно на вынік суда яны не ўплываюць. На вынік суда нічога не ўплывае. Нават тое, што сведкаў, якія яшчэ і пратаколы на нас склалі фальшывыя, удалося падлавіць на падмане. Ды і калі гэтыя пытанні, за якія нас судзяць, да справы не адносяцца, то што тады адносіцца да справы? Застаецца ў сведкаў толькі спытаць, які зараз год. І то сумняваюся, што яны змаглі б адказаць правільна.

Нават сам бывае блытаешся з гэтымі гадамі. Ну аняк не можаш паверыць седзячы на такім судовым працэсе, што на вуліцы ўжо XXI стагоддзе. Што ўжо канчаецца 2015 год. Што ўжо па ўсёй планеце надыходзіць год 2016. А ў нас па-ранейшаму дэжавю.

З Новым годам, суайчыннікі. З новым шчасцем. Усяго вам найлепшага ў надыходзячым годзе. Шчасця, радасці, кахання, дабрабыту і здароўя. Апошняе вельмі важна. Каб аніякія хваробы вас не краналі. Асабліва дэжавю.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Масла масленае



Ці маем ужо ў Польшчы дыктатуру партыі ПіС, ці яшчэ дэмакратыю, за якую (прынамсі афіцыйна) пастаянна выказваюцца «пісаўскія» палітыкі? Ні тое, ні іншае. У адрозненне ад гэтага, усё больш смела намякаецца пра нейкую дэмакратуру. Гэты монстр, асаблівае моўнае тварэнне, усё больш і больш прысутнічае на вуснах палітыкаў. Я толькі не ведаю, ці больш з яе здзекуюцца тыя з раней няслаўна рассыпваючайся Грамадзянскай платформы, ці больш расхвальваная тымі, хто кіруючага ў цяперашні час у краіне ПіС? Пакуль што, дэмакратуры ў Польшчы няма. Гэтак жа, як у цяперашні час няма дыктатуры і няма ўжо дэмакратыі. Аказваецца, што ў Польшчы няма нічога. А можа ўсяго занадта шмат. Адным словам — у лішку. У лішку цынічнай палітыкі ў палітыцы, ілжывай інфармацыі ў інфармацыі, у словах пустых слоў ...

Перавышэнне чагосьці ў чымсьці найбольш выяўляецца ў размоўным выразе «масла масленае». Таксама называюць яго плеаназмам, па-грэцку: плеонасмос — проста лішак. У мове маем справу з ім, калі адна частка выказвання мае той жа змест, які знаходзіцца і ў другой. Іншымі словамі, калі дасягнута такім чынам злоўжыванне — альбо намеранае, або несвядомае. У апошнім выпадку спусцім на гэта заслону міласэрнасці, таму што не адзін з нас здзяйсняе моўныя памылкі. І каб толькі моўныя! Што тычыцца першага, аднак, варта спытаць, чаму і каму гэта служыць. Адказ на гэта пакідаю дапытлівым чытачам. У гэты момант я хацеў бы нагадаць складаныя плеаназмы майстра рытарычных фігур, Яраслава Качынскага, чыё «відавочнае сведчанне» ці «сапраўдная праўда» назаўжды незгладжальна захаваліся ў вакабулярах польскай мовы. Да таго ж самага кошыка, што «масла масленае» ці «дакладныя доказы» таксама дакіну «вярнуцца назад» ці «падняцца ўверх». Дарэчы, ці мы ў палітычным плане не «вярнуліся» да таго, што ўжо даўно мела «вярнуцца назад»? І, нарэшце, у чым справа? Гэта таксама пакіну аценцы чытачоў.

Застануся крышку пры «масленым масле». Хаця б таму, што гэтая бессэнсоўная фраза паказвае бессаромна агаленую праўду пра нашы разумова рассеяныя часы. Аказваецца, што гэта вельмі карысна, калі спрабуем праверыць на этыкетках, колькі масла ў прапанаваным... масле. Або 30, або толькі 10 працэнтаў, ці там увогуле ёсць самая маленькая грудка малочнага тлушчу? Іншая справа, што этыкеткі таксама хлусяць. Мы чытаем на іх адно, а іншае аказваецца праз нейкі час. Найчасцей тады, калі нам заспее расстройства страўніка. Або галавы. Сапраўды, я не ведаю, якая хвароба больш гадкая. Мяне турбуе і тое, і тое, таму ўсё больш і больш цяжка для мяне знайсці ў польскай рэчаіснасці які-небудзь сэнс. У краме. У палітыцы. У жыцці. Як быццам бы сэнсу было менш і менш у нашай разгайданай рэчаіснасці, што здараецца мне трохі разумець, таму што сама рэальнасць — па маёй аценцы — зышла ўжо даўно, калі не цалкам, у значнай ступені ў віртуальную апраметную люцыферскага інтэрнэту. Там, дзе праўда ілюзорная, словы не маюць ніякага значэння, таму што яны могуць быць свабодна мадыфікаваны, дарэчы, так як і дзеянні. А жыццё і смерць маюць бясконцую колькасць варыяцый. Прыйдзецца людзям за гэта паплаціцца горкім абуджэннем. Тым не менш, можа лепш раней, чым пазней?!.

Нарэшце, некалькі слоў пра прыведзеную ў пачатку «дэмакратуру». Як можна здагадацца, гэта гібрыдная моўная форма, якая складаецца з двух паняццяў: дэмакратыі і дыктатуры. Адно супярэчыць другому, што, думаю, усе мы гэта рацыянальна разумеем. Не ўсе, аднак, адмаўляюць яго сэнсавае значэнне. Паняцце «гібрыда» не з'яўляецца вынаходствам сучаснасці. Гібрыдныя істоты, і нават боскія істоты запоўнілі ўяўленне старажытных егіпцян і грэкаў. Сёння мы ведаем, што яны былі часткай іх міфалогіі. Тым не менш, мы не ведаем, ці былі яны рэальнымі для іх. Гэтак жа, як сёння, для многіх людзей міф пра габрэя, гістарычнага змоўшчыка, або масонаў, якія таемна кіруюць светам, роўна верагодны як рэальны, так як для старажытных існаванне гуманоідных гібрыдаў магло быць у роўнай ступені відавочным. Тым не менш паняцці «гібрыд» ці «дэмакратура» заўсёды адносяцца да вобласці міфалогіі. Рацыянальна мы можам аддзяліць міф ад праўды. У адрозненне ад гэтага, інтуіцыя здольная ігнараваць неіснуючае звяно ў прычынна-выніковым ланцужку доказаў або аргументаў. Не мяркуючы ўжо, ці гэта прынцыпова сапраўднае або ілжывае, яна можа знайсці для сваіх доказаў якую-небудзь сувязь паміж існай і хлуснёй. Міфалогія і звязанае з ёю міфатворства для «дэмакратуры» з'яўляецца проста такой сувяззю з... рэальнасцю. Гэта відавочная відавочнасць. Гэта найсапраўдная праўда. Гэта масла масленае.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Яшчэ пра помнік

Тыдзень таму пісаў я пра згоду беластоцкіх радных на пабудову ў цэнтры Беластока помніка сузаснавальніку Нацыянальнай дэмакратычнай партыі (Narodowej Demokracji), вядучаму ідэолагу польскага нацыяналізму Раману Дмоўскаму, аўтару кнігі «Myśli nowoczesnego Polaka». У ёй выкладзеныя ідэалагічныя падставы польскага нацыяналістычнага руху. Дмоўскі заяўляў, што «нацыя з'яўляецца арганічным адзінствам». Ён патрабаваў вымушаную паланізацыю меншасцей, у адпаведнасці з лозунгам «Польшча для палякаў». Прыгадаю, што прамоўтарам ідэі ўзвядзення помніка Дмоўскаму ў беластоцкай Гарадской радзе быў радны «Клуба Трускаляскага» Дар'юш Васілеўскі, нядаўні падляшскі лідар Усяпольскай моладзі, якая зноў з жаданнем і адвагай падымае ў грамадскім дыскурсе лозунг «Польшча для палякаў». Сярод галасуючых за гэтай ідэяй быў радны ад Форуму меншасцей Падляшша (выбарчы сатэліт Грамадзянскай платформы) Славамір Назарук. Больш за тое, не толькі ў канчатковым выніку ён прагаласаваў за, але быў адным з радных-заяўнікаў, якія звярнуліся з абмеркаваннем такога праекта. З-за недахопу месца на папярэднім тыдні я абмежаваў сябе да аднаго сказа апраўдання яго рашэння, а тлумачыў ён, перш за ўсё, падкрэсліўшы неадназова, што нацыянальна-правыя асяроддзі «нічога не маюць супраць беларускай, праваслаўнай меншасці»:

— Раман Дмоўскі быў значнай фігурай у перыяд аднаўлення незалежнасці Польшчы. Ён ставіў на пазітывісцкае стаўленне (? — М. Х.). Я не ўваходжу ў яго нацыяналістычныя погляды. Цяжка параўноўваць тое, што было ў час Дмоўскага з тым, што адбываецца ў цяперашні час. Нацыянальны рух з'яўляецца шырокім: ад Нацыянальна-радыкальнага лагера да прыхільнікаў Рамана Дмоўскага. Людзі з атачэння спадара Васілеўскага не ёсць негатыўна настроенымі ў дачыненні да меншасцей. Я вагаўся, ці не стрымацца ад голасу па гэтай рэзалюцыі.

— Але Вы былі адным з яе заяўнікаў? — распытваў я далей.

— Я не палітык, а радны і грамадскі дзеяч, і мая сітуацыя як адзінага раднага, які прадстаўляе меншасці ў гарадской радзе, нялёгкая. Гляджу перспектыўна на сітуацыю, якая склалася ў краіне, і якая павярнула рашуча направа, і трэба гэта прыняць да ўвагі. Асяроддзю спадара Васілеўскага трэба раслумачыць, напрыклад, як сапраўды было з рэйдам «Бурага».

Каб неабгрунтавана не выказваць сваіх думак адносна да майго моцна сумніўнага погляду на ўвекавечанне Дмоўскага ў сталіцы шматнацыянальнага і шматканфесійнага Падляшскага ваяводства, я звярнуўся да прац гісторыкаў па тэме, у тым ліку да артыкула прафесара Яўгена Міроновіча «Нацыянальныя меншасці ў польскай палітычнай думцы (1900-1944)», які нагадвае: «Стварэнне незалежнай польскай дзяржавы ў межах на ўсходзе ўказаных Рыжскім дагаворам прадвызначыла тое, што на практыцы асновай для палітыкі ўрада ў адносінах да нацыянальных меншасцей стала дактрына Рамана Дмоўскага: «Палітычныя наступствы Рыжскага дагавора, — пісаў Станіслаў Цат-Мацкевіч, — навязваліся з жалезнай сілай польскай унутранай палітыцы. Польская нацыянальная палітыка зыдзе на рэйкі дактрыны Дмоўскага, будучы ісці ў напрамку дзяржавы нацыянальна аднароднай і з гэтых рэек не зыдзем ужо ніколі». Далей заўважае: «Дактрына Дмоўскага, якая адмаўляла беларусам, літоўцам, украінцам права на свабоду нацыянальнага развіцця ў польскай дзяржаве, была створана ў той час, калі гэтыя народы не вельмі выразна дэманстравалі сваю ідэнтычнасць і палітычныя памкненні (...). Сярод польскіх грамадскіх і культурных арганізацый ва ўсходніх ваяводствах найбольшай папулярнасцю карысталіся лозунгі Нацыянальна-дэмакратычнай партыі. Пад іх чарам заставалася таксама большасць супрацоўнікаў мясцовай адміністрацыі, якія на сваіх пасадах дастаткова паслядоўна вялі палітыку, спрыяючую асіміляцыі беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў». Прытым прафесар Міроновіч адзначае: «Рамана Дмоўскага, а таксама яго духоўных спадчыннікаў, турбавала ў асноўным габрэйскае пытанне (...). Дактрына Дмоўскага, пераведзеная на палітычную практыку, стварыла страшную ўяву для шматмільённых груп грамадзян Другой Рэчы Паспалітай», а за галоўнага ворага Польшчы і палякаў прызнавала немцаў.

Вядома, я выцягнуў тут з больш шырокага кантэксту думкі прыведзенага праф. Міроновічам. Але — на мой погляд — ужо гэтыя фрагменты ставяць пад сумненне ўшанаванне Дмоўскага ў падляшскай сталіцы. Гэтыя сумненні — здаецца — не мелі ўплыву на рашэнне раднага Назарука.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

**Прэзентацыя агульнапольскага навукова-даследчага праекта «Апарат бяспекі ў адносінах да нацыянальных меншасцей» і суправаджальная яму дыскусія склаліся, між іншым, на святкаванне ў Беластоку 15-й гадавіны Інстытута нацыянальнай памяці. Адбыліся яны некалькі гадзін да ўручэння прызоў у конкурсе на лепшую Гістарычную перадачу года. Пра гэтую цырымонію і пераможцаў мы пісалі на мінулым тыдні. Навукова-даследчы праект складаюць даследаванні становішча нацыянальных меншасцей у Польшчы і ўзаемных адносін польскай дзяржавы і меншасцей, у міжваенны перыяд і ў чарговыя дзесяцігоддзі пасля вайны.**




■ Злева: Алег Латышонак, Войцех Сляшынскі, Кшыштаф Сыховіч, Яраслаў Сырнык

# Даследаванне меншасці

Прэзентацыя і дыскусія адбыліся 26 лістапада на гістарычна-сацыялагічным факультэце Універсітэта ў Беластоку — у першы дзень трохдзённых мерапрыемстваў, прымеркаваных да 15-годдзя Інстытута нацыянальнай памяці. Удзел у іх прынялі Яраслаў Сырнык (ІНП Вроцлаў), Алег Латышонак (Універсітэт у Беластоку), Кшыштаф Сыховіч (ІНП Беласток), Войцех Сляшынскі (УуБ). Кіраўнік праекта Яраслаў Сырнык адзначыў:

— Вывучэнне ўзаемасувязей апарату бяспекі і нацыянальных меншасцей праводзілася таксама задоўга да 1989 г. Не ўсе вынікі даследаванняў гэтага перыяду трэба выкінуць у сметніцу і не ўсе атрыманыя пасля 1989 г. падыходзяць для станоўчай ацэнкі.

Звярнуў ён увагу, што ў гэтай галіне даследаванняў па-ранейшаму шмат белых плям і надалей вывучэння чакае ўмоўная дарожка з дакументаў працяглацю ў дзевяноста кіламетраў, якія знаходзяцца ў распараджэнні ІНП. Прыгадваў, што ў самім толькі аддзеле Інстытута ў Жэшаве знаходзіцца 250 тамоў актаў для даследаванняў датычных украінскай меншасці, і гэта не лічачы, напрыклад, папак супрацоўнікаў службы бяспекі. Заявіў:

— Мала вывучаны інструментальны падыход да праблемы меншасцей у кантэксце савецкага дамінавання.

### НЕ МЕНШАСЦЬ, А ПАДДАНЫЯ

Войцех Сляшынскі спаслаўся, між іншым, на дзве канцэпцыі ў дачыненні да меншасцей у Другой Рэчы Паспалітай: федэратыўную (Юзафа Пілсудскага — давала меншасцям магчымасці для росту і ўплыву) і інкарпаратыўную (Дмоўскага — асіміляцыйную, якая прадугледжвала абмежаванне ўплыву меншасцей):

— Пасля 1926 года чакалася, што Пілсудскі вернецца да федэратыўнай палітыкі, але гэта аказалася немагчымым і прагучаў лозунг, каб прыцягнуць меншасці да вялікай дзяржавы.

У гэтым кантэксце ён нагадаў асобу Людвіка Бацянскага, з 1935 года віленскага ваяводы, які, рупліва праводзіўшы палітыку паланізацыі, прывёў да поўнай ліквідацыі арганізацый літоўскай і беларускай нацыянальных меншасцей на Віленшчыне, а таксама Вацлава Косткі-Бярнацкага, палескага ваяводы ў 1932-1939 гадах, які рашэнні ў дачыненні да меншасцей прымаў адносна аўтаномна, даючы ім свабоду дзеяння.

Алег Латышонак:

— Трэба памятаць, што да вайны на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ўвогуле нельга было адкрываць беларускіх школ, ужо ад 20-х гадоў. Нават калі гаворым пра дзейнасць ваяводы Бацянскага, трэба памятаць, што ён меў што ліквідаваць, а ў Беластоцкім ваяводстве не было нават чаго зачыняць. У гэтым сэнсе савецкая акупацыя прывяла да значных змен у карысць беларускага насельніцтва. Пачалі вучыцца па-беларуску, вядома, з велізарнай індактрынацыяй. Тым не менш, навучэнне кагось чытаць і пісаць, гэта даванне яму ў рукі інструмента, які можа быць выкарыстаны ў розны спосаб. Няма сумненняў у тым, што на працягу гэтага перыяду беларусы найменш пацярпелі ад савецкіх рэпрэсій. СССР быў дзяржавай заснаванай на класавым прынцыпе, а не на нацыянальным. Саветы праследавалі тыя катэгорыі насельніцтва, якія разглядаліся як антысавецкія ў класавым сэнсе. Беларусы на нашай тэрыторыі, якія былі дадзены да класа беднаты, не маглі больш пацярпець. Гэта толькі тады, калі сялян на некалькіх гектарах сталі лічыць кулакамі, пачаліся дэпартацыі кулакоў-беларусаў. Аднак, беларусы тут былі ў найменшай ступені ахвярай савецкага рэжыму.

Пра перыяд нямецкай акупацыі падчас Другой сусветнай вайны сказаў:

— Беластоцкая акруга была пад кіраўніцтвам Эрыха Коха, неверагоднага варвара, які на кіраванай ім тэрыторыі, як і ва Украіне, з нікім не лічыўся, і ў той час цяжка казаць пра якую-небудзь этнічную палітыку. Нават атрыманне пасля некаторага часу дазволу на адкрыццё беларускіх школ у Бельскім павеце вяжацца, кажуць, з актам карупцыі з боку Яраслава Касцыцэвіча, пазнейшага заснавальніка беларускага школьніцтва ў перыяд ПНР. Мабыць, проста падкупіў мясцовага чыноўніка, і таму гэта не быў выраз нямецкай палітыкі. Так, узнік у Беластоку ў той час Беларускі камітэт і выдавалася газета «Новая дарога», але беларусы ў той час, як і палякі, былі падданымі, а не меншасцю. Вядома, часць беларусаў супрацоўнічала з немцамі, не толькі ў Беластоцкай акрузе, але не было іх шмат. У пасляваенны перыяд для камуністычных улад праблемай былі хутчэй тыя беларусы, якія ўцяклі з тэрыторый далучаных да СССР. У Польшчы працягвалася паляванне на гэтых людзей, і гэта цягнулася вельмі доўга, нават да 1968 года.

### СТВОРАНЫЯ СТЭРЭАТЫПЫ

Аб сваіх даследаваннях у дачыненні да беларускай меншасці шырэй расказаў Кшыштаф Сыховіч:

— Палітыка камуністычных улад да нацыянальных меншасцей была розная і спрыяла ўзніканню розных стэрэатыпаў, якія не мелі пацвярджэння ў тагачаснай рэчаіснасці. Мела на гэта ўплыў па-першае прапагандаванне тэорыі этнічна адзінай дзяржавы, што аўтаматычна прыгаворвала нацыянальныя меншасці на пэўны нябыт у грамадскім і палітычным жыцці. Адным з асноўных пытанняў заставалася пытанне рознага трактавання розных меншасцей з боку камуністычных улад, па меншай меры да 1956 г. Напрыклад, габрэйская меншасць пасля 1945 года набыла прывілеяванае становішча, і ў той жа час стварыўся ў нашым рэгіёне стэрэатып, што за ўсё дрэннае была адказная гэтая этнічная група, што цалкам не мела дачынення да рэальнасці. Найлепшым прыкладам можа быць сітуацыя ва Упраўленні дзяржбяспекі ў Ломжы, дзе ў 1945-1956 гадах на 298 прааналізаваных персанальных спраў функцыянераў паяўляюцца тры чалавекі габрэйскага і шэсцьдзесят функцыянераў беларускага паходжання, а побач таго дзесяць заявілі праваслаўнае веравызнанне. Цалкам іншая сітуацыя, калі справа ва Упраўленні дзяржбяспекі ў Бельску-Падляшскім, дзе працэнтны ўдзел яго службоўцаў беларускай нацыянальнасці вагаецца ад пяцідзесяці пару да больш за семдзесят адсоткаў. Такім чынам, беларусы ў Польшчы ў цэлым не з'яўляюцца ахвярай гэтай новай народнай улады ў першым яе перыядзе. На самой справе, былі рэпрэсаваны актывісты Беларускага камітэта, але не беларуская супольнасць. Беларускае асяроддзе было прадметам усебаковага нагляду, асабліва яго кантакты за мяжой, толькі з канца 40-х і ў 50-х гадах. Тады былі заведзены аб'ектныя справы, напрыклад, справа «Дыверсант», датычная да ўсяго беларускага асяроддзя ў Польшчы.

Як адзначыў Кшыштаф Сыховіч, уважлівага даследавання патрабуе пытанне стаўлення меншасцей у перыяды грамадскіх і палітычных крызісаў у Польшчы, а таксама так званай нацыяналістычнай дзейнасці ў меншасных групах, узнятай уладамі ў Польшчы ў 50-я і 60-я гады:

— Застаецца пытанне, ці была гэта проста выдумка ўлад.

### КНІГА З ЦАРКОЎНЫМ МАТЫВАМ

У Падляшскай ксёнжніцы таксама ў рамках святкавання 15-й гадавіны ІНП (таксама 26 лістапада) адбылося прасоўванне кнігі „Urząd bezpieczeństwa w województwie białostockim w latach 1944-1956" пад рэдакцыяй доктара Марціна Маркевіча. Гэта ўжо 28-ы том серыі, апублікаванай беластоцкім ІНП. Адзін з папярэдніх датычыў апарату бяспекі ў Бельску-Падляшскім, аб чым у свой час мы шырока пісалі ў «Ніве». Апошняе выданне складаюць навуковыя артыкулы гісторыкаў мясцовага бюро публічнай адукацыі, прысвечаныя структурам УБ, барацьбе супраць незалежнага падполля, распрацоўцы Каталіцкага касцёла і іншых рэлігійных арганізацый, рэпрэсіям супраць сялян і распрацоўцы моладзевых асяроддзяў. Вельмі цікавая тэма тычыцца Праваслаўнай царквы, якую ў адным са сваіх артыкулаў кранае Кшыштаф Сыховіч. Прыводзіць там інфармацыю з архіваў і звяртае ўвагу, што ў выніку падпісанага ў верасні 1944 г. Рэпатрыяцыйнага пагаднення паміж Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай і Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення, Беластоцкае ваяводства пакінулі 36 388 чалавек, што складала 20 адсоткаў пражываючага на Беласточчыне беларускага праваслаўнага насельніцтва. Як сцвярджае, замяшанне ў Праваслаўнай царкве выклікала пасляваенныя спрэчкі вакол царкоўнай юрысдыкцыі паміж Маскоўскім Патрыярхатам і Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой. Тут нагадвае гісторыю — як назваў — асабліва актыўнага праціўніка аўтакефаліі бельскага дэкана а. Мікалая Вінцукевіча і яго паслядоўнікаў — святароў Уладзіміра Емельянюка з Заблудава і Васіля Івасенкі з Бельска-Падляшскага, загінуўшых у загадкавых абставінах. Таксама згадвае, між іншым, аб дзейнасці пасляваеннага апарату дзяржбяспекі супраць праваслаўнага духавенства ў сувязі з яго стаўленнем падчас Другой сусветнай вайны, а таксама імёны святароў-стукачоў гэтых службаў. У рэшце рэшт, аўтар публікацыі заключае: «Нягледзячы на дружалюбныя жэсты і публічныя заявы аб падтрымцы новай сістэмы, Праваслаўная царква стала ахвярай дзеянняў, накіраваных супраць рэлігійных суполак, была падвергнута беспярапыннай інфільтрацыі і кантролю Упраўлення дзяржбяспекі». Кнігу можна пачытаць у нашай рэдакцыі.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## „Ніву" ў нас любяць

У Новым Ляўкове ў Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) расце лік пастаянных чытачоў беларускага штотыднёвіка „Ніва". Ён цікавы па змесце. Чытачоў можа быць больш. Для гэтага неабходна, між іншым, каб было больш дапісаў з гарадоў і вёсак Гайнаўшчыны ці Бельшчыны, а таксама з Сакольшчыны і з Дуброўшчыны. Няшмат маем звестак і з Беластоцкага павета. Зараз не ўсюды там рэдакцыя мае сваіх карэспандэнтаў. Раней папулярная была 11 старонка „Нівы" з „Трыбунай чытачоў". Некаторыя карэспандэнты з яе пачыналі чытаць газету. Гэтую старонку яны стваралі. На ёй шукалі перш-наперш сваіх дапісаў. З яе і цэлай „Нівы" вучыліся правільна пісаць па-беларуску.

Зараз цешыць мяне, што родны часопіс чытаюць мае колішня вучні. Вучыў я іх беларускай і польскай мовам у Пачатковай школе ў Старым Ляўкове. „Ніву" чытаюць, між іншым, Міхал Болбат, Аляксандр Ігнацюк, Вітальд Скепка, Васіль Харкевіч, Міраслава Садоўская (цяпер яна Балтрамюк) і Яўгенія Пташынская (Равінская).

Ад 1 лістапада да 22 лістапада гэтага года (ёсць гэта нумары „Нівы": № 44-47) жыхары Новага Ляўкова і Плянты купілі 67 экзэмпляраў беларускага штотыднёвіка, у тым ліку найбольш сорак чацвёртага і сорак сёмага нумароў — па дваццаць. Чытачы з Нараўчанскай гміны з зацікаўленнем прачыталі ў „Ніве" інфармацыі пра сябе, убачылі свае прозвішчы, між іншым, пад загалоўкам „Сябры «Нівы»" ў 46 нумары.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Гістарычныя недакладнасці

Другая сусветная вайна для большасці цяперашняга насельніцтва з'яўляецца гісторыяй, якую варта пазнаваць.

Агульна вядома, што да вайны Нараўка была жыдоўскім мястэчкам, у якім яўрэі складалі каля 80% жыхароў. Сёння ў Нараўцы ніхто дакладна не ведае, колькі было тут жыдоў.

З артыкула А. Вярбіцкага «Высяленне з пушчы» ў 47 нумары «Нівы» можна даведацца, што гітлераўскі генацыд забіў 703 жыдоўскія асобы ў Нараўцы і што ў лесе каля Заблотчыны немцы расстралялі 282 жыдоўскіх мужчын. У гэтым жа артыкуле ёсць здымак помніка нараўчанскім яўрэям, на якім выразна напісана, што пакоіцца тут 500 асоб, амаль удвая больш, чым пададзена ў дзённіку злачыннага паліцэйскага батальёна. Чытач не ведае, які лік ахвяр праўдзівы. Нязгодныі дата злачынства. У вытрымках з гітлераўскага дзённіка падаецца 15 жніўня, а на помніку: 5 жніўня. Шмат недакладнасцей у падручніках гісторыі. У час ПНР пісалася, што ў канцлагеры «Асвенцім» загінула 4 мільёны 300 тысяч, цяпер жа падаецца лік 1 мільён 300 тысяч чалавек, значыць, у тры разы меншы.

Затым пытанне, якім падлікам верыць. Калі дакладней палічылі ахвяры генацыду?

Яшчэ не так даўно лічылася, што ў Беларусі за гады вайны загінуў кожны чацвёрты жыхар краіны. Цяпер жа можна пачуць, што загінуў кожны трэці. Якая праўда?

Гістарычныя матэрыялы трэба чытаць з разважнасцю і шукаць аб'ектыўную праўду.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

## Коля, Коля.

То ж Ты ўжо ходзіш па нашым свеце некалькі гадзін ці нават дзён больш за мяне. І ці ж Ты за той час не заўважыў, што з кожнага пункту гледжання наш рэлятыўны эйнштэйнаўскі свет выглядае інакш? І я вось тыя пункты гледжання прыводжу на Твой, як асабліва мне важнага Чытача, прысуд, каб неравіта Ты вырашыў, адкуль бачная сапраўдная праўда. Бо я, так як калісь заўважаў славуты Сакрат, ведаю, што нічога не ведаю. Да таго ж ведаю, што развязкі гэтай нараўчанскай дылемы, трылемы ці, агульна, мультылемы, не ведаюць нават найбольш аўтарытэтныя аўтарытэты. З павагай

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

# Дарафей Фіёнік.

## Новая кніжка пра бежанства і іншыя выданні



У рамках праекта «Кірыліцай пісанае» ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы 18 лістапада адбылося спатканне з Дарафеем Фіёнікам, старшынёй аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», які ад дваццаці гадоў збірае матэрыялы і вывучае бежанства 1915 года. У лютым 2016 года Студзіводскі музей плануе выдаць кніжку «Бежанства — дарога і вяртанне. 1915-1922». Пра гэтае і іншыя музейныя выданні Дарафей Фіёнік расказваў сабраным у кіназале Гайнаўскага белмузея. Сустрэчы спадарожнічала выстава шырокафарматных фатаграфій, выкананых у Студзіводах падчас святкавання 100-й гадавіны бежанства.

Спатканне адкрыла Анджаліна Масальская, музейная бібліятэкарка і заадно каардынатарка праекта «Кірыліцай пісанае», а Дарафей Фіёнік распавёў пра бежанства — пра яго трагізм і цяжкае жыццё бежанцаў пасля вяртання дамоў. Многа ўцекачоў памірала падчас дарогі ў глыб Расіі і вяртання з-за недахопу харчавання і дрэнных санітарных умоў. Дарафей расказваў таксама пра ўздзеянне бежанства на нашу культуру і традыцыі.

— Я бежанствам пачаў займацца на 80-гоздзе ад выезду нашых людзей у глыб Расіі. Мы наладзілі летнік у Войшках, дзе збіралі ўспаміны сведкаў гэтых падзей. Запісалі мы бежанцаў у Грыневічах, Навасадах і іншых вёсках. У чарговых летніках прымалі ўдзел, між іншым, Тамаш Саевіч, Міхал Сцепанюк і Тамаш Суліма, якія сталі журналістамі. Захаваўся цікавы бежанскі аповед дзядулі з Грабаўца, народжанага ў канцы васьмідзясятых гадоў XIX стагоддзя. Усе матэрыялы мы апрацоўваем і ў лютым 2016 года плануем выдаць кніжку «Бежанства — дарога і вяртанне. 1915-1922». Зараз інфармацыю пра бежанцаў можна знайсці ў інтэрнэце, на сайтах гарадоў Расіі. Рыхтуючы матэрыял для нашага выдання, карыстаемся таксама гэтай крыніцай ведаў. Калі б было ў мяне больш вольнага часу, я хацеў бы наведаць месцы, дзе нават 6-7 гадоў пражылі нашы продкі, і пабываць на іх магілах, калі такія там захаваліся, — расказваў Дарафей Фіёнік. — Бежанства было назначанае драмай, трагізмам і адначасна рамантыкай. Людзі ў бежанстве кахаліся, жаніліся, радзіліся ім дзеткі. Некаторыя нашы хлопцы засталіся жыць у Расіі, дзе заснавалі сем'і, іншыя вярталіся дамоў з расійскімі жонкамі. Нашы людзі знаёміліся з прыгожай прыродай, якой у нас няма, сутыкаліся з іншай культурай, якой частку перанялі і прывезлі дамоў.

Госць сустрэчы ўдакладніў, што ў кніжцы-альбоме пра бежанства будуць змешчаны матэрыялы і здымкі, сабраныя на працягу апошніх 20 гадоў. Да выдання будзе далучана кружэлка з аўдыёзапісамі ўспамінаў бежанцаў і іх сямейнікаў. На кампакт-дыску будуць змешчаны таксама песні перыяду Першай сусветнай вайны, якія ў шасцідзясятых гадах у жыхароў вёскі Малешы запісалі Мікалай Врублеўскі і яго супрацоўнікі. Частку бежанцаў спачатку пасялілі на землях сённяшняй Беларусі, а пасля вывозілі іх далей, у глыб Расіі

— Бежанцаў сялілі таксама на Смаленшчыне і Цвершчыне, якія ў мінулым насялялі крывічы. Да нас нядаўна прыязджаў калектыў «Мяжа» з Цвярскога каледжа. Мы даведаліся, што колішнія традыцыі і культура былі там падобныя да нашых. Падчас выступаў цвярскога калектыву мы пераканаліся, што іх песні падобныя да нашых беларускіх. Яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя ажно 145 тысяч жыхароў Цвершчыны падчас перапісу запісаліся беларусамі, — сказаў Дарафей Фіёнік.

Чарговай кніжкай, якую рэкамендаваў Дарафей Фіёнік, было выданне «Тры светы» аўтарства Ігара Закшэўскага. Спадара Ігара спаткаў я некалькі гадоў назад у Студзіводскім музеі. Тады ён успамінаў пра бацьку, ураджэнца Бельска-Падляшскага, і пра свой складаны лёс.

— Ігар Закшэўскі — журналіст, перакладчык, які тлумачыў нават размовы ўрадавых дэлегацый. Бацька Ігара, Уладзімір Закшэўскі, бяльшчанін, у Пецярбургу ажаніўся з расіянкай. Ён трапіў на фронт Першай сусветнай вайны, а пасля змагаўся з рэвалюцыянерамі. Пазней прымусілі яго змагацца ў радах Чырвонай Арміі і трапіў ён у польскі палон каля Бораў-Тухольскіх, у якім прабыў каля двух гадоў. Жонка і дзеці Уладзіміра жылі тады каля Архангельска і толькі ў 1926 годзе пераехалі ў Польшчу. Ігар Закшэўскі нарадзіўся ў 1928 годзе ў Граеве, а ў 2011 годзе, калі Ігару было за восемдзесят гадоў, я з ім ездзіў у Архангельскую вобласць і пабываў там на месцах, дзе жыла сям'я Ігара. Яго бацька, Уладзімір Закшэўскі, у 1940 годзе быў арыштаваны саветамі і разам з жонкай і дзяцьмі сасланы ў Алтайскі край. Ігар пасля вярнуўся ў Польшчу, — расказваў Дарафей Фіёнік пра герояў кніжкі «Тры светы».

Рэкамендаваў ён таксама кніжку «Бельскі Вялікі Сойм года Божага 1564», выдадзеную Студзіводскім музеем у серыі «Гісторыя і культура падляшскіх беларусаў». Кніжка тычыцца ў галоўным Бельшчыны, у саставе якой знаходзілася тады тэрыторыя сённяшняй Гайнаўшчыны. Новае выданне — вынік мерапрыемстваў, прымеркаваных да 450-годдзя Вялікага Сойма ў Бельску, арганізаваных галоўным чынам Студзіводскім музеем. Дарафей Фіёнік напомніў сабраным, што праект Статута Вялікага Княства Літоўскага і дакументы тагочасу напісаны на старабеларускай мове, якая ў многім падобная на сённяшнюю мову жыхароў вёсак у наваколлі Бельска і Гайнаўкі. Далей размова сышла на баяраў ВКЛ, якія пасяліліся таксама на нашых землях.

— Баяры пасяліліся ў Саках Кляшчэлеўскай гміны, Мокрым, Грыневічах, Анцутах. Большасць з іх стала баярамі путнымі, вольнымі ад паншчыны, якія абавязаны былі арганізаваць перавоз пошты і людзей, — удакладніў Дарафей Фіёнік.

Стаў ён таксама расказваць пра падрыхтоўку выдання «Кніга памяці жыдоў з Бельска-Падляшскага». Тэксты ўжо некалькі гадоў перакладаюцца з ідыш, іўрыту і англійскай мовы, але тлумачэнне яшчэ працягваецца.

— У Бельску-Падляшскім да вайны жыло больш за 4 тысячы жыдоў. Сярод іх было многа інтэлігенцыі, дактары, чыноўнікі. Суадносіны паміж жыдамі і астатнімі бяльшчанамі складваліся добра. Хаця здараліся слоўныя сваркі, то не было запалохвання жыдоў і не здараліся выпадкі іх пабояў. «Кніга памяці жыдоў з Бельска-Падляшскага» паўставала ў пасляваенныя гады, а пісалі яе, між іншым, яўрэі, якія трапілі ў савецкую армію або выехалі з Бельска на ўсход, уцякаючы ад фронту. У час немецкай акупацыі жыдоў уратавалася мала, — расказваў Дарафей Фіёнік. — У 1945-1946 гадах са ссылкі вярнуліся ў Бельск каля 150 жыдоў. Прыехалі жыць у Бельск яўрэі з Цеханоўца, Сямятыч і Браньска. Пасля сталі яны выязджаць у Ізраіль, але яшчэ да шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя ў Бельску дзейнічаў малітоўны дом яўрэяў.

Чарговай кніжкай, якую рыхтуе Студзіводскі музей, з'яўляецца «Манаграфія пра айца Канстанціна Байко», якога адразу пасля вайны арыштавалі супрацоўнікі НКВД, вывезлі ў Мінск і там засудзілі на ссылку ў Варкуту, дзе айцу Канстанціну ўдалося выжыць. Да гэтага вучыў ён Божаму закону і дапамагаў арганізаваць беларускае школьніцтва ў Бельску. Святкаванні ў гонар айца Канстанціна Байко два разы праходзілі ў Бельскім белліцэі. Дарафей Фіёнік распавёў таксама пра два новыя выданні «Бельскага гасцінца», дзе друкуецца, між іншым, гісторыя роду Шульцаў з Паўлінова каля Вулькі Арлянскай гміны.

У Студзіводах летам гэтага года былі арганізаваны рэканструкцыі бежанства і Бельскай бітвы. Было тады выкананых многа фатаграфій, частка якіх зараз прэзентуецца ў кіназале Гайнаўскага белмузея. Гэтая экспазіцыя ўпершыню паказваецца па-за Студзіводскім музеем. Жыхары Гайнаўшчыны будуць маглі паглядзець здымкі рэканструкцый падзей перыяду Першай сусветнай вайны.

— Дарафей Фіёнік многа робіць на ніве беларускай культуры і захавання нашых традыцый і пахвала яму за гэта. Патрэбныя нам такія людзі, якія стараюцца захаваць нашу гісторыю ў друкаваным слове, — сказаў былы настаўнік беларускай мовы ў Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы і музейны дзеяч Васіль Сакоўскі.

— Можна сказаць, што Дарафей Фіёнік — чалавек-установа, які кіруе дзейнасцю Студзіводскага музея і многа часу адводзіць выдавецкай дзейнасці, — заявіў настаўнік Гайнаўскага белліцэя Янка Карчэўскі, таксама дзеяч белмузея.

Пасля спаткання можна было купіць апошнія выданні Студзіводскага музея з аўтографам Дарафея Фіёніка.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



# Кнігі майго жыцця

Апрача паэзіі і музыкі маім найбольшым хобі з'яўляецца чытанне кніг. Я лічу, што дзень без чытання гэта страчаны дзень. Нішто так інтэлектуальна не развівае і не ўзбагачае ўнутранага свету чалавека як кнігі. У дзяцінстве бацькі мяне з сястрою выхоўвалі без тэлевізара. У дзевяностыя гады мінулага стагоддзя я хаваўся яшчэ і без інтэрнэту. Рознага тыпу смартфоны, ноўтбукі, айпады, планшэты ды ўсялякія электронныя цацкі адцягваюць сучасных дзяцей ды моладзь ад кнігі. А добрая кніга гэта асалода для душы ды прыемныя ўспаміны, якія засталіся мне з дзяцінства. Дзякуючы кнігам, я шмат марыў ды стварыў свой унутраны свет, з якога выходзяць мае беларускія вершы, тэксты песень, эсэ ды артыкулы, якія публікую ў беларускіх газетах ды часопісах. Унутраны свет чалавека, створаны пры дапамозе прачытаных кніг, вельмі дапамагае чалавеку ў яго цяжкіх хвілінах жыцця. Ён ратуе яго ад жалю, страху перад будучым, ад псіхічнай нагрузкі, якая ахінае нас у складаны час. Чалавек з глыбокім унутраным светам лягчэй пераносіць душэўны боль, які становіцца яму імпульсам для творчасці. А творчасць — музыка, літаратура, жывапіс — гэта разрадка эмоцый. Самая творчасць гэта тэрапія для душы. Калі шмат чытаем, узнікае ў нас яшчэ большая цікавасць да навакольнага свету ды людзей. З'яўляюцца ў нас пытанні ды здольнасць апісання даных з'яў, уражанняў, эмоцый ды перажыванняў, якія варта запісаць. Дзякуючы творчасці чалавек пакідае па сабе след на зямлі, упісваецца ў гісторыю грамадства. І я тымі слядамі, асабліва літаратурнымі, цікаўлюся здаўна. Цікавасць да літаратуры прышчапіў мне мой бацька, які ў маім дзяцінстве разам са мною чытаў кнігі. Мы з бацькам часта размаўлялі аб прачытаных кнігах.

* * *

Першай маёй кнігай, якую я прачытаў у дзяцінстве, былі беларускія народныя казкі, выдадзеныя ў 1957 годзе ў Мінску. Да гэтай пары займае яна самае важнае месца на паліцы маёй хатняй бібліятэкі. Пасля мой тата параіў мне прачытаць «Новую зямлю» Якуба Коласа. Чытаючы апісанні прыроды ў паэме, я бачыў не Беларусь, а маю самую блізкую сэрцу малую айчыну — Беласточчыну. У сёмым класе пачатковай школы я прачытаў усе беларускія кнігі са школьнай бібліятэкі ў маёй роднай вёсцы Маліннікі. Гэта дапамагло мне паступіць у белліцэй у Бельску-Падляшскім. Хаця я нарадзіўся ў Польшчы, то я не цікавіўся польскай літаратурай у такой ступені, як беларускай. Мае вершы на беларускай мове напісаны пад уплывам прачытанай мною беларускай літаратуры. Я ніколі не спадзяваўся, а нават не марыў, што стану членам літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і што з'явяцца ў мяне свае зборнікі паэзіі. Марыў толькі пра адно: каб наведаць Беларусь. Мае мары збыліся, калі я стаў вучміцай на беларускай філалогіі ў Беластоку. Я не ўяўляў іншага напрамку адукацыі, чым беларуская філалогія.

* * *

У рамках студэнцкага абмену ў 2002 годзе я ўпершыню пабываў у Мінску. Першая паездка ў Беларусь зрабіла на мне вялікае ўражанне. Сталіца Беларусі мне спадабалася. Сябры-аднакурснікі, вяртаючыся з Беларусі, везлі алкаголь і кампакт-дыскі з рускай папсой. А я амаль усе грошы выдаваў на беларускія кнігі. Беларускія кнігі былі на два-тры разы таннейшыя, чымсьці кніжкі ў польскіх кнігарнях, а да таго былі яны прыгожа аформлены, заўжды ў цвёрдых ды каляровых вокладках.

* * *

Пасля заканчэння вучобы на беларускай філалогіі я пачаў цікавіцца расейскай літаратурай. З кнігарні «Акцэнт» я выкупіў, на маю думку, самыя цікавыя зборы твораў расейскіх класікаў. Усе кнігі былі прыгожа выдадзены маскоўскім выдавецтвам ЭКСМО. Цвёрдыя вокладкі з пазалочанымі літарамі, шэрая папера пахучая друкарскай фарбай заахвочвалі, каб узяць іх у рукі і чытаць. У рускай літаратуры пераломy XIX-XX стагоддзяў найбольш мне падабалася, што кранае яна праблемы, якія надалей застаюцца актуальнымі. Колькі ў нашым грамадстве ёсць Мышкіных, Карамазавых, Сабакевічаў ці Чычыкавых.

* * *

Пасля азнаямлення з біяграфіямі рускіх класікаў літаратуры аказалася, што многія з іх не былі рускай нацыянальнасці. Напрыклад, Фёдар Дастаеўскі быў беларусам, а Мікола Гогаль ды Сяргей Булгакаў — украінцамі. Яны пісалі па-руску, бо ў Расеі працей было здабыць славу пісьменніка, чым на іх радзіме. Дарэчы, не толькі вядомыя ў рускай літаратуры пісьменнікі былі іншых нацыянальнасцей. Напрыклад, да гэтай пары ідзе сварка беларускіх, польскіх ды літоўскіх літаратурных крытыкаў пра Адама Міцкевіча ці Чэслава Мілаша. Гэта натуральнае, што за асобу вядомага артыста часта б'ецца некалькі народаў. Падобна дзеецца і ў балканскай літаратуры. За вядомага сербскага пісьменніка Іва Андрыча спрачаюцца сербы і харваты. Аўтар славутага рамана „Мост на Дрыне", хаця нарадзіўся ў харвацкай сам'і, то прызнаваў сябе сербам. Тое ж самае з Данілам Кішам, якога прызнаюць і сербы і чарнагорцы ды габрэйскія пісьменнікі. Кіш — аўтар „Сямейнага цырка" ці „Мансарды", хаця памёр у Парыжы, заўжды сябе лічыў многанацыянальным, а да таго яшчэ пісаў па-французску. Падобна было з Уладзімірам Набокавым, аўтарам славутай „Ліліты". Набокаў, хаця пісаў на амерыканскай мове, быў рускім, які ўцёк пасля кастрычніцкай рэвалюцыі ў ЗША. Таксама і нашы „белавежцы" гэта пісьменнікі, якія ствараюць літаратуру на памежжы Польшчы і Беларусі, доказам чаму можа быць падляшскі дыялект, прыпісваны як да беларускай, так і ўкраінскай мовы.

* * *

Прыйшоў час, калі я зацікавіўся скандынаўскай літаратурай. Літаратура Швецыі, Нарвегіі ды Фінляндыі гэта, як я сам кажу, „маўклівая літаратура". У кнігах Франса Эміля Сіланпі, фінскага лаўрэата Нобелеўскай прэміі, вельмі мала дыялогаў. Заступаюць іх прыгожыя апісанні скандынаўскай вясковай прыроды, якія адлюстроўваюць настроі ды глыбокія перажыванні герояў. Тое ж самае ў кнізе „А лясы прыгожа пяюць" славутага нарвежскага пісьменніка Тругве Гульбрансена ці ў рамане „Благаславенства зямлі" нарвежскага пісьменніка Кнута Гамсуна, дзе галоўнай цэннасцю твораў з'яўляецца прыгожая скандынаўская зямля, якая корміць людзей і дае адпачынак. Інакш ёсць у рамане „Пры дарозе" дацкага пісьменніка Германа Банга, дзе ёсць шмат дыялогаў, але не з іх вынікаюць глыбокія перажыванні герояў, але з гэтай самоты, у якую ўцякаюць галоўныя героі. Нешчаслівыя ў жыцці, часта ўцякаюць у мастацтва, музыку ці літаратуру, якія выражаюць іх перажыванні. Банг сваім далікатным апісаннем герояў вельмі падобны на творы рускага класіка Антона Чэхава, які таксама пісаў пра самоту, няшчаснае каханне і г.д. і ў субтыльны спосаб адлюстроўваў іх псіхалагічныя рысы характару.

* * *

Быў час калі я моцна зацікавіўся іспанскай прозай, а то дзякуючы кнізе Хуліо Кортасара „Ігра ў класы". Вельмі мне спадабаліся дыялогі ў кнізе, якія вялі галоўныя героі рамана — іберыйскія студэнты ў Парыжы. Дыялогі вяліся наконт усходняй філасофіі, літаратуры, джазавай музыкі. Такую літаратуру чытаецца са смакам. Свайго часу вельмі мне спадабаўся цыкл кніг сучаснага іспанскага пісьменніка Карласа Руіса Сафона — „Цень ветру", „Ігра анёла" ці „Турэмшчык неба". У кнігах вельмі цікава апісана вандроўка па Барселоне 30-40-х гадоў XX стагоддзя праз прызму гісторыі літаратуры. Ёсць там і драма, і гісторыі кахання, і нават элементы дэтэктыву, а галоўнымі героямі з'яўляюцца бацька і сын, якія вядуць кніжную краму. Кніга тады цікавая, калі мае ў сабе загадку, якая трымае ўвагу чытача да канца. Цікавыя кнігі пісаў таксама калумбійскі пісьменнік Габрыэль Гарсія Маркес. Асабліва яго раман „Каханне падчас халеры" вельмі мне спадабаўся. Гэта гісторыя няшчаснага кахання, якое пачынаецца ў маладосці галоўных герояў, а шчаслівa канчаецца тады, калі героі ўжо пасталелі.

* * *

Быў час, калі я з-за цікавасці чытаў па адной кнізе пісьменнікаў іншых народаў. Раман „Грэк Зорба" грэчаскага пісьменніка Нікоса Казанцакіса аказаўся настолькі смешнай ды інтрыгуючай гісторыяй, што чытаў я яго вельмі хутка і з вялікай зацікаўленасцю. Тое ж самае было з кніжкай „Пяройдзем да маладосці" ўкраінскага пісьменніка Паўла Заграбельнага. Гэта цікавая гісторыя жыцця моладзі ў 60-х гадах XX стагоддзя на Данбасе, дзе зараз ідзе вайна. Да падобнага тыпу кніг прылічыў бы я кнігу „Сямейны цырк" Данілы Кіша ці кнігі чэшскага пісьменніка Багуміла Грабала. Цікавай кнігай быў таксама зборнік апавяданняў маладога ўкраінскага пісьменніка Сергія Жадана „Big Mac", ці чэшскага пісьменніка Мілаша Урбана „Праклясце сямі касцёлаў" — крымінальныя гісторыі на фоне прыгожай сталіцы Чэхіі. Цікавыя раманы піша таксама і наш беларускі пісьменнік Міхась Андрасюк, якія таксама прылічыў бы я да падобных тыпу гісторый, але апранутых у нашы падляшскія рэаліі. Да таго прылічыў бы яшчэ кнігу харвацкай пісьменніцы Дубраўкі Угрэшыч „Фарсіраванне рамана-рakі" — гэта іранічны пагляд пісьменніцы на сваіх калег-пісьменнікаў.

* * *

Многа на свеце цікавых ды вартасных кніг. Як кажуць, колькі народаў, столькі ж пісьменнікаў. Цікава адарвацца часам ад штодзённых турбот ды затапіць сваю цікавасць свету ў кнізе, бо гэта і прыемна, і карысна, і нешта застанецца ў галаве.

Юрка БУЙНЮК

## Іх кроў ратуе жыццё іншым

Пачэсныя донары аддаюць кроў і ратуюць жыццё іншым. Ёсць такія заслужаныя донары ў Нараўчанскай гміне. 30 лістапада гэтага года падчас сесіі Гміннай рады войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч і старшыня ГР Андрэй Мядзведзь уручылі ім дыпломы і рэчавыя ўзнагароды.

Падарункі ды шчырыя пажаданні здароўя ды поспехаў у асабістым жыцці ад прадстаўнікоў нараўчанскіх гмінных улад атрымалі Юрый Бароўскі з Заблотчыны і Андрэй Васільчык з Нараўкі (аддалі яны па 12 літраў „дару сэрца") ды Тамаш Бабраўскі з Семяноўкі, Лукаш Дацкевіч з Альхоўкі, Лукаш Ламашкевіч, Войцех Мілько і Яраслаў Васільчык з Нараўкі, Лешак Лясота і Кшыштаф Паскробка са Старога Ляўкова і Славамір Смольскі з Новага Ляўкова (аддалі яны па 6 літраў крыві, якая з'яўляецца бясцэнным і незаменным лякарствам).

Сярод пачэсных донараў ёсць таксама тры жанчыны: Ірэна Анцутка і Ірэна Станішэўская з Нараўкі ды Сільвія Іваноўская з Міклашэва (аддалі яны па 5 літраў крыві).

(яц)

## Павышэнне сутачных радным

1 снежня 2015 года адбылася X сесія Рады гміны ў Чаромсе, на якой было прынята рашэнне аб павышэнні плат радным і солтысам. І так месячныя стаўкі старшыні Рады гміны і яго намесніку застаюцца па-даўнейшаму — адпаведна 1000 зл. і 500 зл. Затым павышаюцца сутачныя радным з 250 зл. на 300 зл. у месяц, а солтысам са 100 зл. на 120 зл. Павышаецца месячная стаўка сутачных старшыні камісіі бюджэту і развіцця з 350 зл. на 400 зл. у месяц, а старшыні рэвізійнай камісіі з 200 зл. на 250 зл. ад кожнага пасяджэння. Члены згаданай камісіі атрымаюць прыбаўку на 50 зл. ад кожнага пасяджэння, што ў агульным ліку складае 200 зл.

Новыя стаўкі будуць абавязваць ад 1 студзеня 2016 г.

Абагульняючы вышэйсказанае, абраннікі народа — радныя значыцца, становяцца прывілеяванай кастай, бо ці праходзіць сесія ці не, дык тры сотні ў кашалёчак штомесяц капне. Закон, дык закон...

(ус)

## Ваяводства ў ліках

Цікава ведаць, што ў Падляшскім ваяводстве ў 2013 годзе пражывала 1 188 329 жыхароў. Плошча ваяводства гэта 20 187 квадратных кіламетраў. Па плошчы наша Падляшскае ваяводства на 6 месцы ў Польшчы, а па колькасці людзей — на 14-ым.

У ваяводстве 14 паветаў і 3 гарады на правах павета: Беласток, Ломжа, Сувалкі. Вялізную плошчу займае Беластоцкі павет — 2 975 квадратных кіламетраў. На тэрыторыі ён найбольшы ў краіне. Другі па плошчы ў ваяводстве — Сакольскі павет — 2 055 кв. км, а трэці — Гайнаўскі. У Гайнаўскім павеце жыве 45 838 асоб (2013 г.). Гайнаўскі павет самы «беларускі» ў Польшчы — тут пражывае многа беларусаў па находжанні. Шмат беларусаў у Беластоцкім, Бельскім, Сямятыцкім і Сакольскім паветах. На тэрыторыі Падляшскага ваяводства знаходзяцца 3 832 мясцовасці: 40 гарадоў і 3 792 вёскі.

Мікалай ВАРАНЕЦКІ



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Як вывучаць мову? У чацвёртым «ц» ведаюць!

— Што вы робіце, што беластоцкія дзеці гавораць па-беларуску? — пыталі мяне настаўнікі на Бельшчыне і Гайнаўшчыне. Бачаць іх у тэлебачанні, слухаюць па радыё. І не вераць, чаму няма такога ў Чыжах ці Кляшчэлях.

Пра гэта мы рашылі спытаць у вучняў чацвёртага «ц» класа беластоцкай «чацвёркі».

У адказ найперш паказалі нам вышыванкі ў рамках, прыаздобленыя каляднымі ўзорамі. Рабілі іх па суботах, каб паспець пад калядны кірмаш. Прададуць іх бацькам і сваякам, а заробленыя грошы прызначаць на новыя дыскі аб'яднання АБ-БА. Як вядома, Каляды не могуць адбыцца без спеваў. Дзеля вывучэння калядак у «чацвёрцы» наладзілі майстар-класы з музыкантамі Паўлам і Пятром Азяблам. Гэтая група абрала ўжо сабе баявітую назву «Баламуты». Невыпадкова, у «чацвёрцы» шмат гадоў існуе беларускі музычны гурт «Баламуткі». У гэтым годзе вядзе іх спявак падляшскай оперы і філармоніі Кірыла Лепай. Навучэнцы з «чацвёркі» першыя сярод першых у школьным тэатры. Свае пастаноўкі паказваюць бацькам і дзецям іншых школ. Тут працуе ажно чатыры тэатральныя групы, якія вядзе настаўніца Аліна Ваўранюк. У гэтым дапамагаюць ёй прафесійныя акцёры.

— Ад новага года будзе працаваць з намі акцёрка Іаанна Троц, — кажа настаўніца, — яна павядзе наймалодшую групу.

А які спектакль рыхтуюць нашы сябры? У гэты раз чакае іх сапраўдны выклік. Яны рашыліся паставіць музычны спектакль на словы вершаў Андрэя Хадановіча. Музыку да дзесяці вершаў паэта піша незаменная Анна Бабік. Прэм'ера адбудзецца на заканчэнне навучальнага года. І гэта не ўсё! Разам з пачаткам школьнага года ў школе пачаліся танцавальныя майстар-класы. Заняткі вядзе спадарыня Аксана Прус з Гародні. Яна вучыць і танцаў, і паказвае адрозненні паміж польскімі і беларускімі фігурамі. Вось Сара Скаўронская паказала спачатку польскі дзявочы паклон, які танцорка дарыць для публікі. Пасля прыйшоў час на беларускі варыянт. Паказ дапоўніў Шыман





Клімюк мужчынскімі, польскімі і беларускімі фігурамі.

Аднак найбольшае ўражанне зрабіла інфармацыя пра ўдзел у прадметнымконкурсе.З чацвёртага класа да конкурсу прыступіла ажно шэсць асоб (усіх навучэнцаў беларускай мовы — 13).

Конкурс найлепш напісаў Міколка Здрайкоўскі. Яму не хапіла аднаго пункта, каб набраць максімальную колькасць балаў. Да конкурсу прыступілі яшчэ аднакласнікі: Сара Скаўронская, Кася Іванюк, Кандрат Косцін, Юлія Сасна, Марыся Пякарская. Ці шмат трэба было вучыцца?

— Я прыступіў без дадатковай падрыхтоўкі, — прызнаўся Кандрат Косцін. Кандрату не хапіла двух балаў да максімальнай колькасці пунктаў. Таксама ў час нашай сустрэчы ён першы адказаў на пытанне. Трэба было назваць раку, якая плыве праз старажытны горад Віцебск. Кандрат ведаў: гэта Дзвіна.

На канец хацелася б адзначыць, што ўсе нашы сябры гаварылі па-беларуску. Аднак такое сцвярджэнне тут прагучала б банальна. У «чацвёрцы» разумеюць гэта без лішніх слоў. Бо ці можна вывучыць мову, калі на ёй не гаворым? Тут таксама нікога не трэба намаўляць на пазаўрочныя заняткі. Там проста файна і цікава.

**ЗОРКА**

## Чарэшня

*Чарэшня,
птушыная вішня,
цераз плот
пад хатай павісла.
Распускае чарэшня лісты
разам з кветам,
расквітаеш і ты
перад летам.
Па красе чарэшня
весняй
сумуе,
ды тады
на галінках пдады
ўжо гадуе.
Ягады
мы з'ямо і з галінак,
а ў костачцы
новае дрэва
у зачыне.
Парастуць новыя
чарэшні
разам з песняй.*

Міра ЛУКША

# СОНЦА, МАРОЗ І ВЕЦЕР

*(латышская казка)*

Ішлі аднойчы Мароз, Сонца і Вецер. Разгаварыліся.

— Я — самае магутнае сярод вас, — сказала Сонца.

— Не, я за цябе мацнейшы, — не пагадзіўся Мароз.

Разумеюць яны, што моцнаму лягчэй на свеце жыць. Такога ўсе баяцца. Аднак як пазнаць, хто сапраўды з іх самы моцны?

Ішлі яны, ішлі аж сустрэлі чалавека. Мужчына зняў шапку і пакланіўся. Тады Мароз, Сонца і Вецер спыталі ў яго:

— Скажыце, чаму вы нам пакланіліся?

Думаў чалавек, думаў — не ведае, што адказаць. Скажы, што ўсім пакланіўся, не спадабаецца ім. Скажы, што аднаму — таксама рызыкоўна. Ды хто з іх, на самой справе, самы дужы? Сонца спаліць можа, Мароз — замарозіць, Вецер зямлю высушыць. Думаў чалавек, разважаў аж вырашыў:

— Ветру я пакланіўся, — адказаў.

Не спадабаўся адказ Сонцу. Яно пагразіла чалавеку:

— Буду памятаць, што ты Ветру, а не мне, пакланіўся!

— Не бойся ні Сонца ні Марозу, — суцешыў чалавека Вецер. — Калі толькі паклічаш мяне, я табе заўсёды дапамагу.

Летам Сонца рашыла адпомсціць. Накіравала ўсе свае прамяні на чалавека і стала з усіх старон апякаць. Чалавеку горача зрабілася, няма чым дыхаць. Паклікаў ён Вецер і кажа:

— Каб ветрык падзьмуў, лягчэй дыхаць было б!

Раптам падняўся паўночны вецер ды навеяў прыемны халадок. Чалавек зноў за работу ўзяўся. Сонца было вымушанае прызнаць, што Вецер за яго мацнейшы.

Настала зіма. Мароз таксама рашыў адпомсціць чалавеку. Скаваў ён холадам зямлю, ажно дрэвы трашчалі. Чалавек у хаце сядзеў у кажуху і ляскаў ад халадэчы зубамі. Ён успомніў пра Вецер ды паклікаў яго:

— Ратуй, браток!

Прыляцеў вецер. Ён нагнаў хмары і ўпаў снег. На зямлі цяплей стала. Саступіў мароз. Выйшаў чалавек са сваёй хаты і ў лес за дрывамі адправіўся.

Зразумеў Мароз, што Вецер яго перамог. Сустрэўся ён з Ветрам і кажа яму:

— Не той самы моцны, хто сілай сваёй выхваляецца. Толькі па ўчынках можам меркаваць, хто мае найбольшую сілу!

***(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)***

Урок беларускай мовы ў Нарве

*Аляксандра ЛАШЧЭЎСКАЯ,*
*ПШ імя Кірылы і Мяфодзія*

### Коцік-псоцік

***А хто то там такі маленькі,***
***Прыгожы, кругленькі.***
***То міленькі наш коцік,***
***Весяленькі псоцік.***
***Заўсёды вясёлы,***
***Ніколі не хворы.***
***Яго баяцца мышкі,***
***Калі ў яго іграюць кішкі.***
***Мы кахаем псоціка,***
***Нашага прыгожага коціка.***

*Крыстыян СТОЦКІ*
*Гімназія ў Міхалове*

### Пятніца

*Я люблю пятніцу, дзень радасці,*
*Люблю так,*
*як сабачка любіць косці!*
*Сёння пятніца, дзень вясёлы,*
*Музычная пятніца ў нашай школе.*
*Шчасце ў сябе прашу,*
*Добры гумар нашу.*
*Люблю пятніцу, дзень радасці,*
*Дзень гульні, дзень весялосці.*

*Наталля ПАЎЛОЎСКАЯ*
*ПШ імя Кірылы і Мяфодзія*

### Танцорка

***Я танцую***
***Кручуся, кручуся без канца.***
***І скачу, і скачу.***
***І лётаю, лётаю.***
***Увесь свет віруе.***
***Направа, налева.***
***Наперад і ўзад.***
***Кручуся, кручуся без канца.***

## Загадкі з роднай хаткі

**Чарцянятак па чарзе**
**чорт вазіў на качарзе.**
**Па балоце,**
**па чароце.**
**З чарацінкаю ў роце,**
**Напалохаў чорта:**
**— Вох!**
**Чортаў куст —**
**Ч..т..а..х**
**(Н. Сторажава)**

## УВАГА КОНКУРС!

## № 50-15

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 20 снежня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадкі № 46-15: дуб, снег. Узнагароды, аўтаручкі з алоўкам, выйгралі Раксана Івацік з КШ № 3 у Гайнаўцы, Вікторыя Раеўская, Марлена Лабаноўская з ПШ № 3 у Бельску-Падляшскім. Віншуем!**

## Вершы Віктара Шведа

### Які выхад?

— Якая ж у нас каламуць,
Усю ноч не магла заснуць.
І як тут заснеш, Божа збаў,
Ты хрыпеў а сабака брахаў.

— Можа менш было б прыгод
Каб мелася наадварот.
Каб я якраз брахаць умеў,
А наш сабака каб хрыпеў.

### Дзедка кухар

Унук пытае: — Кім ты быў
Да пенсіі, мой дзедка?
— Кухарам быў, я варыў
У рэстаране абедкі.

— Не памагаеш ты цяпер
У кухні бабе Ніне.
— Я ж, унук, пенсіянер,
Патрэбны адпачынак.

## Польска-беларуская крыжаванка № 50-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 46:**

Майл, кіт, тасьма, сорт, паншэт, полы, актыў, мяў. Кропка, сорт, тон, марш, стэп, том, ля, актыў.

Узнагароды, каляровыя фламастары, выйгралі **Вікторыя Раеўская, Магда Рошчанка, Юлія Календа, Нэла Паўлючук** з Бельска-Падляшскага, **Сільвія Грыка** з Міхалова. Віншуем!

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Śnieg / Świat | | | | | Krytyk | Rzym | | Pysk Krowy | Miłośnik książek | |
| Nie | | | Wiek | Krzykacz / Proso | | | | | | |
| | | | Nagroda / Żelazko | | | | | Kopuła | | |
| Lek / Lipa | | Zięć w domu żony | | | | | | | Ra | |
| | Kret | | | | | | Hurra! | | | |
| | Łasuch | | | | | Opał | | | | |
| | | | | | | | | | | |
| | Prusak | | Klub | | Gołąb | | | | | |


■ Магда Сабалеўская і крынскія гімназісты


фота Іаанны ЧАБАН

# Наша хрысціянская любоў да бліжняга

Глыбока верыць, што нават найменшы крок можа зрабіць цуд. Цуд збаўлення свету ад вайны, ад нянавісці да бліжняга. Беластачанка Магдалена Сабалеўская завітала ў Крынкі па запрашэнні мясцовага комплексу школ. Яе дарога да сустрэчы з крынскімі школьнікамі галоўным чынам вяла праз Варшаву, Францыю, ЗША і Турцыю, дзе здабывала сваю адукацыю, знаёмілася з іншымі культурамі і веравызнаннямі, шукала сэнсу свайго існавання. Знайшла яго менавіта ў абароне правоў чалавека. Яе неспакойная душа не ў змозе прайсці абыякава побач людскога цярпення, таму ад дзесяці гадоў займаецца паляпшэннем лёсу бежанцаў. Першапачаткова працавала ў Польшчы з прыбылымі сюды ахвярамі вайны на Каўказе, цяпер аддае свае сілы і здароўе ў турэцкіх лагерах пацярпелым ад трываючай ужо чатыры гады вайны ў Сірыі.

Магда прызналася, што ў Крынкі ехала з асаблівай ахвотай. У яе вялікі сентымент да гэтага рэгіёна. На Сакольшчыне, пад Сідрай нарадзіўся яе бацька. Тут у дзяцінстве праводзіла свае выхадныя, самы лепшы час у акружэнні добрых людзей, прыгожых краявідаў і перш за ўсё ў спакоі. Тады вайна здавалася адлеглай гісторыяй, якую помнілі, у асноўным, дзяды і школьнікі, якія ў Дзень Перамогі на прыдарожных магілах безыменных салдат ускладалі кветкі.

Цяпер не знаходзімся далёка ад ваеннага эпіцэнтра. Свет пад уплывам новай тэхнікі значна паменшыўся. Крынчане часцей ездзяць у Лондан ці Берлін, чым у Саколку ці Беласток. Брытанскія бамбардзіроўшчыкі „Тарнада" толькі што здзейснілі першы налёт на аб'екты „Ісламскай дзяржавы" ў Сірыі. Кіпіць таксама ў польскім парламенце і пад яго мурамі. Жывем у няўпэўненасці і безупыннай пагрозе. У так складаных абставінах асаблівую ўвагу варта звярнуць на візіт папы рымскага Францішка ў шматрэлігійную Афрыку, дзе сказаў ён, між іншым:

— Я супраць радыкалізму. Бог, якому хочам служыць, з'яўляецца Богам міру. Нельга яго іменем абгрунтоўваць нянавісць і насілле. Ведаю, што ў вашай памяці яшчэ жывыя варварскія атакі апошніх гадоў. Надта часта маладых людзей паддаюць уплывам радыкалізму ў імя рэлігіі, каб сеяць страх. Неабходна зрабіць усё, каб несці мір і каб нас бачылі як тых, якія хочуць жыць у міры і ва ўзаемнай пашане. Міжрэлігійны дыялог гэта тое, чаго наш паранены канфліктамі свет патрабуе.

Сусветнасць Магды асабліва выдзялялася на мясцовым крынскім фоне.

— Я згэтуль, я адна з вас, — пераконвала заклапочаных сітуацыяй крынскіх гімназістаў. — Ісус Хрыстос таксама нарадзіўся ў бежанстве. Чаму людзі вымушаны пакідаць сваю хату і адпраўляцца ў бежанства?

— Каб засцерагчы жыццё сваё і сваёй сям'і, — адгукнуліся крынскія школьнікі.

— Бежанцы гэта людзі, якіх прымусілі пакінуць свае хаты.

Праз пасрэдніцтва аўтарскіх, фільмавых дакументаў і здымкаў, якія з'ездзілі ўжо паўсвету, гімназісты знаёміліся з лагерным жыццём сваіх сірыйскіх аднагодкаў.

— Не ходзяць у школу, апранаюцца ў што-небудзь, а дзяўчыны ў вушах носяць ніткі. Ведаеце чаму носяць гэтыя ніткі? Таму, што вераць, што калісь у іх паявяцца сапраўдныя завушніцы.

Лагернае жыццё гэта трыванне ў чаканні. Ад раніцы да вечара, з году ў год, чаканне без магчымасці вяртання дахаты, якой напэўна ўжо няма, да варожай ім дыктатарскай бацькаўшчыны. Нехта там яшчэ застаўся, не пойдзе ў неласкавае бежанства, выбіраючы пэўную смерць ва ўласным ложку.

— Гэта не мая гісторыя, гэта гісторыя малога Мустафы, у краіне якога шмат гадоў ідзе вайна. Яго гісторыі ніхто не чуе, таму я аддаю яму свой голас, — кажа ў фільмавым споце Роберт Левандоўскі.

— Уявіце сабе, што гэтыя дзеткі прыходзяць у вашу школу, — правакуе дыскусію Магда. — Што мы можам для іх зрабіць?

Пасля першага, мяккага водгуку з залы:

— Калі б іх праследавалі, напэўна было б ім кепска. Трэба дапамагаць іншым, тады і нам дапамогуць.

Быццам бомбы з бамбардзіроўшчыка „Тарнада" пасыпаліся словы:

— Называюць нас расістамі, палітычна некарэктнымі, нецалерантнымі. Не хочам іх тут, гэта праз замахі ў Францыі. Яны будуць угаворваць нас прыняць іх веру. Надта яны кепска сябе паводзяць, стрымліваюць рух на дарозе, таму што трэба ім якраз памаліцца, ходзяць па вуліцы бандамі і палохаюць мясцовых. Наша Польшча бедная, нам самім не хапае, а будзем яшчэ карміць чужых, лепш нашым гэта аддаць. Мы з імі не дагаворымся, у нас зусім іншыя культуры. Чаму гэтыя мужчыны не ваююць за сваю краіну, чаму пакідаюць жанчын і дзяцей і пруцца на Захад? Мы не павінны ім дапамагаць. У час Другой сусветнай вайны нам таксама ніхто не дапамог і мы не здаліся, ваявалі да апошняй кроплі крыві. Вы ведаеце сваё, а мы сваё, а на якім баку рацыя, пакажа час.

— Я буду меркаванне аб іншым чалавеку на ўласным вопыце, — абараняецца Магда. — Ізраіль, Блізкі Усход нам не павінны быць чужымі. Там нарадзілася наша культура. Калі ўпершыню завітала я ў турэцкі лагер, у іх была вялікая праблема са здабываннем харчоў. Там галадалі, а я вучылася курдскай мове. Я была якраз на занятках з малымі курдкамі. Хацела я сказаць ім пакурдску некалькі слоў аб сабе, і так замест „колькі мне гадоў" атрымалася „я галодная". Дзяўчынкі зніклі і неўзабаве паявіліся з усімі магчымымі да здабыцця ў наваколлі прадуктамі. Яны пра мяне паклапаціліся. Ці паклапоціцца пра іх мая краіна?

Мы павінны зрабіць для іх нешта ў рамках сваіх каштоўнасцей, уражлівасці і магчымасцей. Галоўнае — запэўніць ім бяспеку. Для гэтага дастаткова прынамсі не аказваць ім сваёй непрыхільнасці. Нават добры позірк можа шмат памяняць. Калі іх адкінем, яны стануць ваяваць супраць нас.

Сустрэча з Магдай Сабалеўскай адбылася ў рамках школьнага праекта „Здаровае заўтра — супрацьдзеянне грамадскім паталогіям".

Куратарка праекта і аўтарка артыкула

Іаанна ЧАБАН

# Такі лёс





■ Брацкая магіла расстраляных у Кудрычах на могільніку ў Крынках

Працуй. З шарэнгі не вылазь, бо як кажуць: цішэй едзеш, далей будзеш. Раз лепш, раз горш, але заўсёды неяк жыві. Так вучыў прадзед Тодар. Цяжкія сямейныя прынцыпы і цяжкі багаж досведу спакон вякоў вандравалі ад дзеда да ўнука, ад бацькі да сына. Быццам яны звычайныя, быццам не было ў іх нічога асаблівага.

— Пра вайну? — паўтарае апошнія словы майго пытання Януш Эйсмант з падкрынскага Уснара-Верхняга.

Сядзіць на сталым месцы, месцы гаспадара, галавы сям'і, у святым кутку за кухонным сталом. Толькі шапку-вушанку забыў зняць з галавы. Цяпер няспешна перарывае са мною сувязь. Глядзіць праз акно на падшыты халодным ветрам восеньскі дзядзінец, вытаптаны нагамі прадзедаў, дзядоў, бацькоў, а ад 78 гадоў яго ўласнымі. Шукае пажаўцелых ад старасці здымкаў, быццам кучы восеньскага лісця. Самыя жахлівыя гніюць на дне. Яны апалі першымі з дрэў-самасеек, выраслых пасярод рэштак спрадвечнага каменнага паркана.

— Я быў яшчэ малы, але добра помню, — кажа, не адрываючы вачэй ад акна. — Жылі мы тады ў Праневічах (цяпер у Беларусі) з мамай Галенай з дому Ігнатовіч. Бацька прыязджаў да нас са свайго маёнтка ва Уснары-Верхнім толькі па суботах. Штодзень гаспадарыць дапамагаў маме бессямейны чалавек, якога прыняла ў хату на дажыванне. Надта марозны сакавік, нядзеля, раніца. Солтыс бегае ад хаты да хаты і кліча ўсіх мужчын на сход у Кудрычы (цяпер у Беларусі, а тады адна з вёсак Крынскага праваслаўнага прыхода). Помню белыя плашчы і кулямёты немцаў, стаяўшых у альшыне непадалёк хаты. Пайшоў бацька, пайшоў парабак, пайшлі ўсе мужчыны з Кудрыч, Ігнатаўцаў і Праневіч. У тым часе завітаў да нас Мішка Ганчар з Кудрыч. Узяў нейкую кніжку, сеў за сталом і чытае. Нам стала страшна: скрозь немцы стаяць, а чужы чалавек у хаце. Маці пачала яго ўгаворваць: „Знаеце, Ганчар, нашы мужчыны пайшлі на сход і вы ідзіце туды альбо недзе схавайцеся". Хата была вялікая, драўляная, з ганкам. Мішка схаваўся менавіта ў нішу пад ганкам, дзе звычайна сядзелі куры. Зараз у хату ўвайшлі два немцы. Перитрэслі ўсе куты. Нікога не знайшоўшы, забраліся і пайшлі. А напалоханы Ганчар, як добры дурань, пайшоў на сход. Там якраз расстрэльвалі мужчын з Гаркавіч, Кудрыч і Петрашэвічаў. Юраўлянскіх таксама планавалі расстраляць, але тамтэйшы бацюшка выпрасіў, выбавіў ад расстрэлу.

На сходзе немцы перакідалі ўсіх то на адзін, то на другі бок. Адных адпускалі да хаты, а другіх вялі на смерць. У смяротным спіску апынуўся, між іншым, Мішка Ганчар. Гналі іх на Макараўцы. Помню лямант гэтых людзей, як лямантавалі, жонкі, дзеці, бацькі. Хацелі расстраляць пад Макараўцамі, але якраз людзі з тамтэйшага касцёла павыходзілі. Пагналі далей, да Курчоўцаў, кіламетр за Уснарам. Мішка Ганчар добра прыхаваўся паміж будынкамі і чакаў, пакуль усе астатнія перасунуцца за вёску. Там немцы выставілі кулямёты і загадалі ўцякаць. Не таму, што іх адпускалі, а каб проста лягчэй было забіваць. Не хацелі цэліцца ў лоб. Мабыць, баяліся глядзець сваім ахвярам у вочы. Гэтыя ўцякаюць, а немцы строчаць з кулямёта — раз і па ўсім. Потым падыходзілі да паўшых на зямлю і спраўджвалі ці дыхаюць. Яшчэ жывых адразу дабівалі. Для Бондара толькі вока прастрэлілі. Карманоў (вясковая мянушка) таксама выжыў. Невядома ці яны непрытомныя ляжалі, ці проста ім пашанцавала.

Усе расстраляныя апынуліся на спіску камуністаў. Ва Уснары-Верхнім у хаце сасланага ў Сібір Шчансновіча адкрылі школу. Вучыў там Паповіч, які з немцамі супрацоўнічаў. Менавіта ён зрабіў той спіс. Апынуліся на ім, між іншым, Клусэвічы з Кудрыч, якія з камуністамі нічога супольнага не мелі. Бацьку і двух сыноў забілі нявінна. Потым Паповіч пераехаў з Уснара ў падберастаўскія Кавалі. Любіў ён папіць і пры гарэлцы аднойчы выгаварыўся. Зацягнулі яго да калодзежа і ўтапілі.

Мішка Ганчар таксама доўга не пажыў. П'яны папаў пад колы аўтобуса на вакзале ў Берастаўцы.

Такі лёс.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Бежанства ў беларускім космасе (3)

**У днях 12-13 лістапада ў беластоцкім Цэнтры праваслаўнай культуры прайшла навуковая канферэнцыя пад лозунгам „Бежанства 1915 года ў гісторыі і традыцыі беларусаў Падляшша”, ладжаная Беларускім гістарычным таварыствам. У канферэнцыі прынялі ўдзел даследчыкі мінуўшчыны з Расіі, Латвіі, Беларусі і Польшчы...**

**Яўген Мірановіч** расказаў пра сваё знаямленне з тэмай бежанства. Спрэша, будучы яшчэ малым хлопцам, не ўспрымаў расказаў старэйшых людзей як нешта важнае — проста здавалася тады, што старажылы гутараць пра нейкую штодзённую шчыну, як пра працу на гаспадарцы каля кароў ці свіней. Але здарыўся адзін незвычайны эпізод. Бывала, што маці сядзела за швейнай машынай і спявала бадай гадзіну часу пра нейкую гісторыю. Калі я ўжо крыху падрос, тады пацікавіўся, адкуль мама навучылася такіх спеваў. „Мая мама мяне навучыла” — пачуў у адказ. „А адкуль Твая мама вывучыла гэта?” І тады аказалася, што бабуля ў дзявочым узросце была ў бежанстве, у Маскве, дзе працавала ў буфеце опернага тэатра. І яна там вывучыла бадай пяць оперных спектакляў... Прайшлі гады, трэба было напісаць доктарскую працу; акурат склалася, што пра беларусаў Беласточчыны ў міжваенны перыяд. Але ў архівах і літаратурных крыніцах я не знаходзіў адказаў на многія пытанні — трэба было „падацца ў народ”. А людзі ўсё згадвалі пра бежанства. Тое бежанства аказалася істотнай для мясцовага насельніцтва падзеяй, пра якую ніхто не напісаў, адно толькі ў „Ніве” былі мімаходныя фрагменты ўспамінаў. У навуковай літаратуры пра падзею было ціха, нічога не было. З'явілася думка, каб нешта зрабіць каб захаваць тое, што яшчэ трымалася ў памяці людзей. У той час паказалася кніжка аднаго з вядучых даследчыкаў дэмаграфічных працэсаў у Беларусі, у якой не было ніводнага слова пра тую падзею, якая закранула каля паўтара мільёна рассеяных па Расіі людзей. Я ў той час працаваў у „Ніве” рэдактарам, — прадаўжаў спадар Мірановіч, — і падаў думку, каб запісаць аповеды тых людзей, якія яшчэ жылі. Гэты выклік быў падхоплены і быў гэта своечасовы імпульс, бо людзі, якія яшчэ бежанства помнілі, сама адыходзілі з гэтага свету. Зразумела, што пра бежанства расказвалі людзі, якім у той гістарычны час было толькі па некалькі гадоў, аднак у іх успамінах захаваліся і меркаванні тадышніх дарослых людзей. Удалося сабраць шмат, як на тагачасныя магчымасці, матэрыялу і зборнік гэтых успамінаў выйшаў у свет у 2000 годзе тыражом каля паўтысячы асобнікаў. Кніга пасеяла ў народзе зацікаўленне, зноў людзі сталі прыгадваць захаваныя ў памяці ўспаміны продкаў пра тое цяжкое выпрабаванне. Але ўзнікае пытанне: чаму толькі цяпер усплыла тэма бежанства? У міжваенны час была гэта паўсядзённая гісторыя. Пасля прыйшло чарговае пакаленне, у якога з'явілася сваё бежанства — перасяленне з вёсак у гарады. І неяк тады не прыходзіла ў галаву, каб разважаць пра падзеі мінулага часу. Толькі цяпер пакаленне ўнукаў і праўнукаў бежанцаў стала ўваскрашаць тую гісторыю. Тут, на памежжы, людзям часта складана выказаць сваю самаідэнтыфікацыю, але вельмі проста сказаць „мае продкі былі ў бежанстве” — гэта інтэгруючы фактар.

**Віталь Луба** запрэзентаваў новае выданне кнігі „Бежанства 1915 года”. У першым выданні кнігі былі змешчаны 155 расказаў, а ў новым выданні гэты лік павялічаны да 168 — гэта 13 расказаў, якія былі сабраны з часу першага выдання. Частка з іх запісана ад унукаў бежанцаў з наваколля Крынак, і тыя ўнукі вельмі дэталёва запаміталі расказы сваіх продкаў.

Пасля прэзентацый адбылася дыскусія, з якой некалькі вытрымак.

**Яўген Вапа** заўважыў, што бежанства было такою агульнай траўмай, якая затармазіла развіццё беларускай ідэі на многія гады. Насельніцтва Беларусі было ў выніку гэтай падзеі вельмі моцна аслаблена не толькі дэмаграфічна, але і гаспадарча, а ў выніку — і палітычна. Да таго ж і ў духовым плане на тэрыторыі былой Гродзенскай губерні, дзе раней былі мясцовыя святары, наехалі вонкавыя служыцелі культу, якія часта выводзіліся з былых царскіх афіцэраў. Да таго ж усяго на прамежку аднаго пакалення беларусаў Беласточчыны да бежанства трэба яшчэ дадаць прымусовыя высяленні перыяду Другой сусветнай вайны і першых пасляваенных гадоў. Была і адукацыйная страта: да бежанства нашы людзі мелі прызнаную адукацыю, якая ў паслябежанскіх умовах аказалася непрыдатнай; у новай дзяржаве яны раптам сталі невукамі. Бежанства ў цывілізацыйным плане адкінула наша насельніцтва ў аграмадную адсталасць. Да ўсяго таго згарнуўся і тэрытарыяльны абсяг беларускай прысутнасці.

**Алег Латышонак** заўважыў, што і на траўме можна будаваць тоеснасць, так як гэта пасля Студзеньскага паўстання зрабілі палякі.

**Анэта Прымака-Онішк** звярнула ўвагу, што бежанства гэта не толькі траўма, гэта таксама расказ аб вытрымцы, аб нашай сіле. І гэтая сіла дае фундамент для далейшага прагрэсу. У бежанства падаліся людзі, якіх агульны кругагляд не сягаў за паветовы радыус. Галоўную ролю бяруць на сябе жанчыны, якія да гэтага часу даглядалі толькі сваю хату; гэтыя жанчыны нават не мелі абутку, бо ў хаце можна было і без яго абыходзіцца. Нават не ўсе ведалі сваё прозвішча, бо гэтымі справамі яны не займаліся. І вось гэтыя жанчыны, поўнасцю адарваныя ад вядомага ім свету, з хворымі і паміраючымі дзяцьмі, падаюцца на другі канец свету. І яны ў большасці выжываюць! І вяртаюцца на „голы камень”, і ўкараняюцца на новае жыццё. Гэта вельмі моцная гісторыя аб пазбаўленых усяго людзях, па якіх пракаціўся прыгнятальны каток гісторыі, а яны ўстаюць і ажываюць. Бежанства пранікае ў культурную сферу, гэта не толькі мясцовыя нізавыя культурныя ініцыятывы, гэта і вырастаючае больш шырокае адлюстраванне ў мастацтве больш высокага палёту.

**Яўген Мірановіч** заўважыў, што тэма бежанства жыве на Беласточчыне, але ў Беларусі няма яе ў публічнай прасторы, там жывуць іншымі справамі. А бежанства прынесла гіганцкія нацыянальныя затраты: на працягу пяці гадоў гіне трэць насельніцтва — гэта дэмаграфічная катастрофа. Да таго ж разам з бежанцамі загінулі і дакументы, помнікі культуры, якія сведчылі пра адвечную тут нашу прысутнасць, тут і агромныя матэрыяльныя затраты. І цягам мінулых ста гадоў ніхто не прабаваў тых каштоўнасцей шукаць — невядома, ці яны ўвогуле захаваліся.

**Рыгор Лазько** прыгадаў эпізоды з прац расійскіх гісторыкаў, дзе апісваецца, што людзі, якія спачатку так шчыра прымалі бежанцаў, пасля года ўжо сталі да іх ставіцца непрыхільна, а нават варожа. Гэта пачалося яшчэ да прыходу да ўлады бальшавікоў, калі стала вядома, што вайна зацягнецца, што Расія вайну прайгравае, што не хапае хлеба, тады здаралася, што тамашнія мясцовыя сталі выганяць прышэльцаў.

**Тамаш Суліма** выказаў меркаванне, што ў бежанства падаваліся не нацыянальна свядомыя грамадзяне, толькі паасобныя сем'і, і гэтая падзея стала штуршком для фарміравання шырэйшай, нацыянальнай тоеснасці. Спачатку былі яны народам толькі ўцекачоў, а пасля даспела ў іх свядомасць, што яны ў Расіі чужыя, што трэба вяртацца на сваё. Тое дасведчанне, тая зароджаная тады гістарычная памяць і дала падтрымку нацыянальнай ідэі.

**Дарафей Фіёнік** зазначыў, што нацыянальная ідэя грунтуецца таксама на легендзе. І нашым нацыянальным падмуркам не можа быць „Слова аб палку Ігаравым”, бо тыя падзеі былі даўно. А вось бежанства з'яўляецца цалкам свежым зрубам гістарычнай памяці, яно ўжо пранікае ў мастацтва, яно пераходзіць з рук гісторыкаў у рукі мастакоў, прымаючы новую іпастась. Тое, што сёлета адбылося на Беласточчыне, стала такім феноменам, які ўжо немагчыма паўтарыць на Гарадзеншчыне ці Берасцейшчыне, бо там зваліліся яшчэ больш балючыя траўмы, напрыклад, калектывізацыя. Ды тая сіла, якую захавалі бежанцы, бралася таксама з таго, што былі яны аднolькава добра адукаванымі людзьмі; для прыкладу — Бельскі павет быў у маштабе цэлай імперыі найбольш адукаваным паветам. Нашы людзі часта ехалі ў Расію да адукаваных сваякоў, якія займалі высокія грамадскія прыступкі.

**Яўген Вапа** дадаў да гэтага: — Мы не можам падкрэсліваць нейкай адсталасці людзей, што падаліся ў бежанства. Мая бабуля была настолькі адукаванай жанчынай, што ў Расіі яна стала працаваць настаўніцай. Многія нашы землякі ўладкоўваліся на гарадскую працу, дзе патрабавалася адукацыя. Яшчэ ёсць адно пытанне: чаму гэтая аграмадная падзея не пакінула следу ў народнай творчасці, напрыклад, у песеннай — людзі, вярнуўшыся з бежанства, спявалі завучаныя там песні, а не стваралі сваіх.

У адказ **Алег Латышонак** выказаў меркаванне, што нашы людзі прывезлі з бежанства розныя свае індывідуальныя ўспаміны і гэтага было замала для фармавання больш агульнага фальклору.

**Яўген Мірановіч** рэфлексійна заўважыў, што мы ведаем, што нічога не ведаем. Гістарычныя дакументы перыяду бежанства знаходзяцца ў Расіі, а мы не маем шанцаў знаёміцца з імі, паехаць туды, дзе былі нашы бежанцы. Нібыта магчымасць ёсць, што змогуць гэта зрабіць нашы калегі з Беларусі. Я крыху чытаў прац расійскіх гісторыкаў кранаючых бежанства, але іх няшмат, да таго ж гэтая гісторыя ім чужая. Гісторыкам гэтая тэма новая, яны, так можна сказаць, не пачалі ёю займацца, хутчэй зоймуцца ёй мастакі.

**Анэта Прымака-Онішк** заўважыла, што ўсё ж такі трэба той дамінантны ў нас міф пра шчаслівае жыццё ў бежанстве супаставіць з рэальнасцю, бо газеты таго часу не прадстаўлялі тагачаснага жыцця ў мажорных колерах. Губернатары закрывалі ад бежанцаў свае тэрыторыі, баяліся пошасці, тых халеры і тыфу, якія ехалі да іх у цягніках, тамашнія людзі баяліся галодных і вашывых прышэльцаў, баяліся, што яны забяруць іхні хлеб. І, гаворачы пра бежанства, трэба ўсведамляць сабе, пра што гаворым: ці адно не пра сфарміраваны шляхетны міф.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**




Удзельнікі дыскусіі. Злева направа: Тамаш Суліма, Яўген Мірановіч, Анэта Прымака-Онішк, Яўген Чыквін, Яўген Вапа, Дарафей Фіёнік

# Пісьмы хутка стануць успамінам

У папулярнай песні рок-групы „Скальдове” ёсць такія словы: „ludzie listy piszą, nawet w małej wiosce”. І тады так было, і нікому не прыйшло ў галаву, што зусім недалёкі час, калі заменяць іх іншыя формы камунікацыі. Так вялося ад вякоў, што пісьменныя людзі пісалі пісьмы, а непісьменныя прасілі тых першых напісаць і прачытаць. Хаця цяпер усе людзі адукаваныя, але эпісталярнасць на нашых вачах знікае, а гэта за прычынай тэлефонаў і інтэрнэту. Звычайнае пісьмо хутка стане ўспамінам і можна толькі будзе яго пабачыць у архівах.

Так здарылася, што мне давялося чытаць пісьмы аўтараў, якіх даўно няма на свеце. Я працаваў настаўнікам у сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Ружанымстоку. Раней у гэтым будынку і ў суседнім, якога ўжо няма, размяшчаліся розныя школы. У 1901 годзе сюды быў перанесены з Гродна Раждаство-Багародзічны жаночы манастыр, манашкі якога вялі тут прытулак для сірот, сельскагаспадарчую школу і настаўніцкую школу для дзяўчат. Школы праіснавалі да 1915 года.

У 1979 г. падчас рамонту школьнага даху былі знойдзены пісьмы, завернутыя ў дзявочую кофтачку і заткнуты за крокву. Мне здаецца, што знойдзеныя лісты належаць вучаніцам настаўніцкай школы. Гэта былі пісьмы на рускай мове і паходзяць яны з пачатку XX века. Найстарэйшае — датаванае на 10 красавіка 1900 г., а ўсе іншыя на 1903-1904 гады. Адны пісьмы пісаны былі вучаніцамі тутэйшай школы, а другія былі да іх адрасаваны. Адрасы тычацца розных мясцовасцей: Трасцянка, Сямятычы, Заблудаў, Мельнік, а таксама Моталь, Кулі, Вярховічы (тры астатнія цяпер у Беларусі). Хаця за гэты час пераваліліся І і ІІ сусветныя войны, то пісьмы захаваліся ў добрым стане. Змест пісем датычыць звычайнага жыцця маладых людзей. Дзяўчаты пішуць сваім сяброўкам аб сваіх занятках у школе, аб падарожжы ў школу, аб хлопцах і сваіх узаемаадносінах. Пра вучобу выказвюцца па-рознаму. Адна дзяўчына піша, што ў школе заняткаў многа, а другая — што кніжкі ў рукі не бярэ, а толькі чытае раманы і дні становяцца ёй гадамі ў чаканні летніх канікул. У адным пісьме хлопец стараецца пераказаць свае любоўныя пачуцці, у іншым дзяўчына абгаворвае другую перад сяброўкай. У іншым пісьме дзяўчына просіць хлопца, каб ён пісаў быццам яе дваюрадны брат, бо пісьмо можа быць затрымана матушкай ігуменняй. Пісьмы праходзілі праз школьную цэнзуру і некаторыя не прапускаліся далей у тую, ці другую старану.





Калі добра прыглянуцца, пісьмовая папера была розных колераў і высокай якасці. Людзі пісалі вельмі прыгожым почыркам, якога цяпер не спаткаць. Кожная літара выведзена з небывалай стараннасцю. Не заўважыў я памылак у тэкстах. Відаць, што настаўнікі ўкладалі многа працы, каб вучні добра прысвоілі законы граматыкі на такім высокім узроўні.

У змесце вышэйпрыведзенага ліста аўтар два разы просіць адрасата прабачэння, што піша так неакуратна.

Людзі жылі тады падобна нашаму жыццю: дарослыя працавалі, хавалі дзяцей, малядыя вучыліся. Мы цяпер ведаем, што яны былі напярэдадні аграмадных і трагічных падзей XX века. Пачыналася японска-руская вайна, далей рэвалюцыя 1905 года, пазней І сусветная вайна, бежанства, рэвалюцыя 1917 года, вайна 1920-1921 гадоў, а неўзабаве і самая страшная ІІ сусветная вайна. Усё гэта было яшчэ для іх невядомым. Колькі з іх здолелі ўсё гэта пражыць? Магчыма, гэтыя лісты — адзіны след па жыцці некаторых з іх.

Павел ХМУР

---

# УНІВЕРСІТЭТ

# http://gazeta.bsu.by

Сыходзячы 2015 год, пэўна, запомніцца беларускай студэнцкай і выкладчыцкай супольнасці тым, што Беларусь нарэшце прынялі ў Балонскі працэс. Праўда, гэтае прыняцце так і не адказала на галоўнае пытанне — навошта прымаць у еўрапейскую акадэмічную супольнасць краіну, дзе няма рэальнай незалежнасці вышэйшых навучальных устаноў, кіраўніцтва якіх шчыра лічыць сябе выключна правадніком так званай „дзяржаўнай палітыкі”. Казаць аб нейкіх акадэмічных свабодах у беларускіх універсітэтах увогуле не выпадае, і далейшы расповед пра газету найбуйнейшага з іх — Белдзяржуніверсітэта засведчыць такое прыкрае становішча.

Калі цікавы карыстальнік набярэ на сваім камп’ютары адрас http://www.gazeta.bsu.by, то перад яго вачыма адкрыецца даволі простае, але прывабнае выяўленне электроннай версіі газеты „Універсітэт”. Уверсе выяўлення, акрамя назвы, наведвальнікі сайта могуць прачытаць, што гэтае выданне з’яўляецца пераможцам Пятага нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ „Залатая літара” ў намінацыі „Найлепшая шматтыражная газета”.

Сайт „найлепшай шматтыражнай газеты” змяшчае восем рубрык, амаль кожная з якіх мае падрубрыкі. Найбольшая колькасць апошніх — у „Рубрыках”, якія першымі ідуць у гарызантальным пераліку. І каб пазнаёміцца з апошнімі навінамі, якія, як лічыць рэдакцыя газеты, важныя для распаўсюду, трэба зайсці ў падрубрыку „Актуальна”. Найбольш актуальнымі, паводле рэдакцыі, апошнім часам былі падзеі, звязаныя з пятымі ўгодкамі ўніверсітэцкага савета зямляцтваў, выступленне студэнтаў універсітэта на спаборніцтвах па фігурным катанні на каньках, конкурс Клуба вясёлых і знаходлівых на кубак рэктара ўніверсітэта.

Зважаючы на такія „актуальныя падзеі”, ствараецца ўражанне, што Белдзяржуніверсітэт не быў апошнім часам і не застаецца ў цэнтры ўвагі беларускай студэнцкай супольнасці. І невядома чаму ў незалежных беларускіх СМІ з’яўляецца інфармацыя аб падрыхтоўцы студэнтамі гэтага ўніверсітэта так званага „Марша студэнтаў” 2 снежня супраць грашовых пабораў, якія ўзаконіла адміністрацыя вну. „«Марш студэнтаў» — гэта наша магчымасць паказаць адміністрацыі беларускіх універсітэтаў і міністэрству адукацыі, што мы патрабуем рэальных рэформ у сферы вышэйшай адукацыі, а не спроб прыкрыць свае няўдачы паборамі і штрафамі”, — гаворыцца ў адозве арганізатараў акцыі студэнтаў Белдзяржуніверсітэта, узрушаных усталяваннем платы за паўторныя спробы перездаць залікі і іспыты.

Як кажуць незадаволеныя палітыкай адміністрацыі БДУ, яны выступаюць за рэальнае студэнцкае самакіраванне, а таксама за ўключэнне ў кіраванне ўніверсітэтам усіх трох бакоў: адміністрацыі, выкладчыкаў і студэнтаў.

Здаецца, такія погляды і выступы навучэнцаў Белдзяржуніверсітэта мусяць адлюстроўвацца на сайце газеты калі не на самым бачным, то ў любым выпадку не на апошнім месцы. На жаль, там такога няма. „Універсітэт” піша пра весела баўлены час, падае расповеды членаў адміністрацыі пра саміх сабе, але пра вострапастаўленую праблему — ні гуку. Максімум, на што адважылася газета — 42-секундны відэаролік, скапіяваны з выпуску тэлевізійных навін. Казаць пра абмеркаванне праблемы на яе старонках з адлюстраваннем розных поглядаў залішне, бо гэта была б праява рэальнай свабоды выказванняў, а яна зараз у беларускіх вну недапушчальная.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

---

## Дата з календара

Дата з календара Дата з календара Дата з календара Дата з календара

Рамантык беларускага краявіду

# 145 гадоў з дня нараджэння Фердынанда Рушчыца

Таленавіты мастак Фердынанд Рушчыц нарадзіўся 10 снежня 1870 г. у маёнтку Багданава Ашмянскага павета (Валожынскі раён). Род Рушчыцаў паходзіў з-над Буга і належаў да герба „Ліс”. Бацька Фердынанда быў вайскоўцам, маці паходзіла з Даніі з сям’і мораплаваўніка. У Рушчыцаў было пяцёра дзяцей: чатыры дачкі і малодшы сын Фердынанд. У творчасці мастака знайшлі адлюстраванне жыццё і побыт беларускага народа, традыцыі мясцовага рэалістычнага жывапісу. Дачка мастака Яніна сцвярджала, што яе бацька заўсёды лічыў сябе „тутэйшым”.

Дзяцінства і юнацтва мастака прайшло ў Мінску. У 1883 г. 13-гадовы Фердынанд паступіў у мінскую класічную гімназію, якую скончыў з залатым медалём. Там жа атрымаў пачатковую мастацкую адукацыю ў выкладчыка Кузьмы Ермакова. Бацька, Эдуард Рушчыц, не ўхваляў захаплення сына, лічачы, што маляваннем не заробіш на жыццё. Увосень 1890 г. Фердынанд паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, дзе цягам двух гадоў старанна вучыўся і толькі ў 1891 г. падаў прашэнне ў Пецярбургскую акадэмію мастацтваў з просьбай залічыць яго вольным слухачом на аддзел жывапісу. У 1892-1897 гг. навучаўся спачатку пад кіраўніцтвам Івана Шышкіна, а пасля — у Архіпа Куінджы. Рушчыца як каларыста вельмі высока ацаніў Ілья Рэпін. У час вучобы Рушчыц здзейсніў некалькі паездак у Крым і на Балтыку. У лістападзе 1897 г. ён скончыў акадэмію і атрымаў званне мастака. Яго працы пачалі набываць вядомыя мецэнаты Павел Трацякоў і Сава Мамантаў. За атрыманыя грошы малады мастак здзейсніў працяглую вандроўку па Еўропе, наведаўшы шмат культурных цэнтраў. Пасля значны час жыў у сядзібе ў Багданаве, зрэдку падарожнічаў па Беларусі і Расіі.У 1899 г. прайшла першая выстава Рушчыца ў Вільні. Браў удзел у грамадскім і культурным жыцці горада, супрацоўнічаў з тэатрам. У 1900 г. у Кракаве ўвайшоў у таварыства польскіх мастакоў мадэрністкай арыентацыі "Sztuka". Карціны Рушчыца экспанаваліся ў Варшаве і Пецярбургу. Крытыкі адразу заўважылі выключны талент каларыста.

З 1904 г. Рушчыц — прафесар Школы прыгожых мастацтваў у Варшаве. У 1907 г. пераязджае ў Вільню. У 1908 г. у мастака з’явілася ідэя стварыць беларускі нацыянальны скансэн, але планы перакрэсліла Першая сусветная вайна. У 1910 г. у Вільні памёр бацька. Гэта ўсклала на мастака новыя абавязкі, звязаныя з апекай гаспадаркі ў Багданаве. Ён быў змушаны дзяліць час паміж Вільняй і Багданавам. У 1912 г. Рушчыц пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Гінай Рэуцкай, якая была маладзейшай за яго на 22 гады. У шлюбе нарадзілася шасцёра дзяцей.

Ад філасофскіх абагульненняў прац ранняга перыяду, мастак пераходзіць да пошукаў каляровых і кампазіцыйных эфектаў. Піша інтэр’еры сваёй сядзібы, робіць замалёўкі і эцюды любімых куткоў прыроды. У 1919-1932 гг. Рушчыц — прафесар аддзялення прыгожых мастацтваў Універсітэта Баторыя ў Вільні. Быў старшынём камісіі па ахове помнікаў старажытнасці, збіраў гістарычныя звесткі, рабіў замалёўкі, эцюды.

Памёр мастак 30 кастрычніка 1936 г. у Багданаве, пахаваны на мясцовых могілках.

Яго палотны захоўваюцца ў музеях Еўропы і Амерыкі, прыватных зборах. У Беларусі толькі адна карціна — „Ля касцёла”. Імем Рушчыца названа вуліца ў Вялікай Сляпянцы ў межах Мінска. У Багданаве каля школы, дзе музей мастака, стаіць помнік. У яго гонар Белпоштай выпушчана адмысловая марка.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## Ліквідавалі курсы аўтобусаў ПКС і... усё

Жыхары Новага Ляўкова і іншых вёсак Нараўчанскай гміны расчараваны сённяшняю рэчаіснасцю. Зараз яны ўспамінаюць, як ездзілі ў Гайнаўку і ў Беласток поездам ды як выходзілі на аўтобусны прыпынак у цэнтры вёскі і ехалі сабе ў Беласток або ў Міхалова. У сталіцу ваяводства былі чатыры курсы аўтобусаў ПКС (туды і назад) ды яшчэ адзін, у поўдзень, курс аўтобуса перавозчыка „Voyager”.

Ад 1 верасня гэтага года беластоцкая суполка ПКС спыніла курсаванне сваіх аўтобусаў праз Новае і Старое Ляўкова ды Міхнаўку і Лешукі. Вучні, якія кожны дзень даязджалі ў школу ў Міхалове, вымушаны наймаць там кватэры і яны „адарваныя” ад бацькоў, сям'і. Перасталі даязджаць у Новую Волю і ў Міхалова на працу жанчыны і мужчыны. Цяжка цяпер дабрацца ў Беласток перш-наперш старэйшым людзям, якія атрымліваюць накіраванні да лекараў спецыялістаў, а то і ў бальніцу. Цяпер настаў такі час. Быў поезд, забралі, быў яшчэ аўтобус, яго таксама забралі. Вось як. Ёсць такая пагаворка: „Будзь мудры і пішы вершы”.

Я, як адзін з гмінных радных і солтыс Новага Ляўкова, рабіў захады, каб ПКС вярнуў ранішні курс аўтобусаў у Беласток і пасля поўдня назад. Пайшоў да кіраўнікоў ПКС, быў у рэдакцыях беластоцкіх штодзёнак — „Газеты вспулчэснай” і „Кур'ера паранняга”. У прэсе былі два артыкулы са здымкам, на якім я трымаю ў руках апошні развітальны білет на праезд аўтобусам ПКС праз Новае Ляўкова. Прыйдзецца захаваць яго для патомных.

Войт Нараўчанскай гміны і я, радны і солтыс Новага Ляўкова, атрымалі адмоўныя адказы ў справе далейшага курсавання аўтобусаў ПКС праз Ляўкова ад кіраўніка па справах перавозу пасажыраў Лукаша Грынеўскага. На гэтую тэму гаварыў я на сесіі Гміннай рады ў Нараўцы. Падтрымкі з боку 14 радных (у нас іх 15) і войта не атрымаў. А жыхары, як самі кажуць, „адрэзаныя ад свету вёсак” усё пытаюць і пытаюць мяне, калі ўжо будзе аўтобус у Беласток. Маем павятовых і ваяводскіх радных ды паслоў. Яны маглі б пацікавіцца як працуе беластоцкі ПКС і чаму жыхары Падляшскага ваяводства наракаюць на яго дзейнасць. Ды не (а павінны пацікавіцца). Што ім. Я гэта бачу. Яны аўтобусамі публічнага транспарту не ездзяць. Апісанай у газетах праблемай не толькі новаляўкоўцаў пацікавіўся (хвала яму за тое) пасол Сейма РП Кшыштаф Юргель. Але тут прыйшоў гарачы час выбараў і ён не знайшоў больш часу для справы вырашэння праблемы з тым жа Ляўкова. А цяпер стаў міністрам і з'ехаў у Варшаву.

Падумаў я. Вось, каб было бліжэй у Беласток (з Новага Ляўкова да яго больш за 60 кіламетраў), дык летам я паехаў бы на ровары. А тут яшчэ на і вазьмі, калі ўжо мае маладыя гады беззваротна прамінулі. Мне семдзесят. Але, калі буду вымушаны, паеду. Веласіпедных сцежак пабудавалі шмат і яшчэ будуюць і будуюць. Калі ласка, тады сядайце на ровар. Ну яго з тым аўтобусам. Па ўсім відаць, там даездзіліся, дакруціліся. І затрат маюць гурбу. Ратаваў іх маршалак і не змог даць больш і больш мільёнаў злотых. Усё было малавата. Сваю маёмасць пачалі прадаваць і ўжо частку прадалі.

На заканчэнне майго допісу працытую кароткі фрагмент адказу маршалка ваяводства ад 17 верасня гэтага года на тэму ліквідацыі ПКСам аўтобусных маршрутаў на трасе Новае Ляўкова — Беласток:

„Wyjaśniam, iż w świetle obowiązującej ustawy z dnia 6 września 2001 roku o transporcie drogowym, marszałek województwa nie posiada żadnych prawnych środków przymusu, aby nakazać przewoźnikowi prowadzenia komunikacji na danej linii komunikacyjnej. Prowadzona przez przedsiębiorstwo działalność usługowa w zakresie transportu drogowego osób oparta jest na zasadzie swobody działalności gospodarczej i podlega regułom gospodarki rynkowej. Spółka PKS Białystok jest spółką prawa handlowego, w której Rada Nadzorcza i Zarząd Spółki nakreślają i realizują politykę transportową. Niemniej jednak przedmiotowe pismo zostanie przekazane spółce celem przeanalizowania możliwości przywrócenia ww. połączenia”.

Зараз за акном стаіць снежань, апошні месяц года, а ў беластоцкім ПКСе аналізуюць і аналізуюць пісьмовую справу. Ды нічога не атрымліваецца. І ўжо іншы маршалак ва ўправе (яна праз вуліцу з ПКСам), бо ранейшы маршалак пайшоў у паслы. А калі ўжо маршалак нічога не можа, ён жа адказны, між іншым, за публічны транспарт, нам, жыхарам Ляўкова, якім далёка да Беластока, толькі дачакаць бы вясны, а той і лета. Я паспрабую тады даехаць у беластоцкую метраполію на ровары. Хто яшчэ са мной?..

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Галаслоўная гамонка

18 лістапада ў час экспазе прэм'ер-міністр Бэата Шыдла абяцала, што ў перыядзе першых ста дзён зоймецца са сваім кабінетам пецярымі прыярытэтнымі задачамі: 500+ на дзіця, абніжэнне пенсіянернага ўзросту да 60 год жанчынам і 65 год мужчынам, павышэнне да 8 тысяч сумы вольнай ад падатку, бясплатныя лякарствы для асоб, якім больш за 75 год ды падбаўкі мінімальнай гадзіннай стаўкі да 12 зл.

Палова тэрміну ўпраўляючым сцякло. Кабінет Бэаты Шыдла дагэтуль падаў у сейм адно дзве прапановы: у справе абяцанага закона 500+ на дзіця ды супярэчлівай адукацыйнай рэформы, якая тычыцца шасцігодкаў. А што з апошнімі справамі? Міністр аховы здароўя Канстанты Радзівіл, напрыклад, у час выступлення на тэлебачанні намякнуў, што ў першым перыядзе прадбачваецца рэалізацыя закону аб бясплатных лякарствах для 75-годкаў і старэйшых. Ніякіх канкрэтаў. Калі прапанова трапіць у сейм на разгляд, калі закон уступіць у сілу або якімі крытэрыямі будзе абгрунтаваны, дык пра гэта — маўчок. Нічога пэўнага пакуль няма ў справе прасямейнага закона 500+ на дзіця. У час выбарчай кампаніі абяцалі 500 зл. на кожнае дзіця. Зараз паявіліся складанасці. Дапамогу на першае дзіця атрымаюць, мабыць, тыя апекуны, у якіх месячны даход на душу не будзе перавышаць 800 зл., або 1200 зл. у выпадку апекі над дзіцём з абмежаваннямі. На другое дзіця дапамога будзе выплачана кожнай сям'і, як найбольш патрабуючай, так і багацейшай.

Ашуканымі адчуваюць сябе „франковічы”, якім прэзідэнт абяцаў пераацэнку крэдытаў. Не стрымаў слова. Падвёў, значыцца, пад дурнога хату. Народ выйшаў з пратэстамі на вуліцу. Але гэта адно пачатак праўлення ПіСаўскай каманды. Што палякаў чакае ў бліжэйшай будучыні, цяжка сказаць. Адно пэўнае — нічога станоўчага, зважыўшы на шматлікасць дадзеных абяцанак.

**Уладзімір СІДАРУК**



## Адгаданка

1. антонім поўдня, 2. краіна Альфрэда Нобеля, 3. лячэнне верхніх дыхальных шляхоў удыханнем распыленых лекавых рэчываў, 4. мангольская пустыня, 5. колькасць пален або саломы, якую можна панесці ў руках, 6. пад ляжачы вада не цячэ, 7. кулінарнае салодкае рэчыва, якое атрымліваецца з некаторых сартоў буракоў або трыснягу, 8. танец Лявонавай жонкі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Бойня, газа, год, Данія, лой, маёр, мі.

Рашэнне: **Да маёй нябогі няма злой дарогі.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Міхалу Байко** з Беластока.

## 13.12 — 26.12

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш поўны энергіі і пабуджаны да дзеянняў, ахвотны да дапамогі. Не зменяй партнёра сілай. Не бяры на сябе чужых праблем. Не пераборшчвай з салодкім і тлустым, дбай аб пячонку (сходзі да лекара). Многа нерваў, асабліва 19-23.12. — знайдзі час на адпачынак і доўгі сон. Працуй на свой рахунак.

**(21.04. — 21.05.)** 15-19.12. лішняя нервовасць і ўпартасць выклічуць спрэчку з Вадалеем, Шалямі ці Стральцом. 25.12. патрэба разгружэння эмоцый возьме верх над рассудкам. Несур'ёзныя раманы або флірты 22-26.12.; хопіць табе адвагі — зухавата будзеш бараніць сваіх рацый. Быкі ў пастаянналь пары будуць шукаць гармоніі і спакою. Чорная авечка ў сям'і можа нарабіць праблем, асабліва 25.12. На працы ніхто цябе не апярэдзіць.

**(22.05. — 22.06.)** Месяц турботны для твайго здароўя — запаленні, слабасць, паніжаны імунітэт; дбай аб сябе, прымай вітамін С, пі ваду з лімонам і мёдам. Варушыся, сходзі ў трэнажорны зал. Дасканала дагаворышся з людзьмі, а тыя, з кім табе не па дарозе, самі пойдуць. Зацесніцца кантакты з сябрамі, правядзеш з імі больш часу. 23-27.12. дзякуючы адважнаму падыходу і неардынарным задумам дасягнеш усяго чаго хочаш.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш адчуваць сябе штораз лепш і штораз больш энергічна, але не пераналужвайся. Каля 25.12. горшы настрой з-за болю у каленях або бёдрах — мабыць, трэба будзе парэабілітавацца. 19-23.12. зайздросныя калегі могуць кідаць калоды пад ногі. 17-21.12. акажашся дасканалым стратэгам, палагодзіш непаразуменні і вернеш веру ў людзей. 20-24. знойдзеш новую дарогу або спрытна дасі рады праблемам. Слухай парад, але не адмаўляйся ад сваіх рашэнняў. 25.12. не аддавай сябе поўнасцю іншым.

**(24.07. — 23.08.)** Калі ў пары вы крыху аддаліліся ад сябе, «адпыліце» пачуцці. У парах з доўгім стажам можа быць вельмі чула, з увагай і ўзаемнасцю. Не раскідвайся грашыма, бо страціш кантроль над выдаткамі, прапусціш фартуну і горка гэтага пашкадуеш. У інтарэсах не аказвай слабасці, не пакідай нічога на сам канец года.

**(24.08. — 23.09.)** Што б ні стала, найбліжэйшыя будуць трываць пры табе да канца. Але можаш парваць кантакты з асобай, з якой добра дагаворваўся — цяжка будзе адбудаваць адносіны. Верныя сябры падтрымаюць цябе. Не прастудзіся, асабліва калі ў цябе застарэлыя нямоглагасці, адразу бяжы да лекара. На працы прызнанне за апошнія старанні. Каля 25.12. хтосьці схоча перашкодзіць у рэалізацыі тваіх планаў і амбіцый.19-23.12. не вырашай важнага ў фінансах!

**(24.09. — 23.10.)** 12-16.12. спакойна ідзі на аперацыі ці іншыя медычныя працэдуры. Сядзь на цікавую дыету, напрыклад, месячную. 17-21.12. нагоды для ўласнага развою і абароны сваёй незалежнасці. У адпаведны момант натрапіш на адпаведнае рашэнне. 15-19.12. не бяры да сэрца чужой крытыкі; не паддавайся хандры, адсунь ад сябе чужыя праблемы. 24-26.12. не прапусці чагосьці важнага. Многа працы, без праблем зрэалізуеш найважнейшыя мэты. Хаця пільнуйся і не рызыкуй.

**(24.10. — 22.11.)** Зрабі сабе нейкую прыемнасць з сябрамі. 15-19.12. твая мілата зняволіць кожнага. Без цяжкасцей дасягнеш мэт. Навокал прыязныя людзі, а любоў расквітнее. Не прывязвайся да абяцанняў 25.12. — будзеш падатлівы на салодкія слоўцы, з якіх нічога не вынікне. У трэцяй дэкадзе трэба будзе памагчы камусьці з далейшай сям'і. З 25.12. можаш паспяхова пазбыцца кепскай звычкі.

**(23.11. — 22.12.)** 12-16.12. цяжка будзе табе вучыцца на сваіх памылках (неўзабаве пашкадуеш). У пачуццях шанцы на важныя дэкларацыі. Не лячыся ў падазроных шаманаў. 22-26.12. расквітнее кампанейскае жыццё. 23-27.12. знакамітая кандыцыя і настрой, стан рахунку давядзе цябе да эйфарыі!

**(23.12. — 20.01.)** Новае знаёмства на гарызонце. У пары не адпускай. Дзякуючы партнёру і ты развіваешся. Не зайздай горшага настрою. На працы больш абавязкаў, што аплаціцца — даведаешся аб тым на пачатку 2016 года. У фінансах канец застою. 22.12. будзеш самаўпэўнены і смела пазмагаешся за сваё. 25.12. магчымыя праблемы з-за памылак і неадпаведнага зразумення іншых.

**(21.01. — 19.02.)** У пачуццях пазмагайся з руцінай. Сямейныя непаразуменні могуць абрыдзіць святочны настрой, хаця будзеш старацца забыць крыўды. Асоба са знаку Стральца ці Шаляў супакоіць цябе. Не выдай грошай пад уплывам імпульсу. 19-23.12. трымайся сваіх прынцыпаў, не слухай чужых табе падказак. 21-25.12. шмат спраў аформіш несапраўдна вельмі ўдала. Прыліў сілы з 26.12.

**Рыбы (20.02. — 21.03.)** Будзь насцярожаны — не ўспрымай лёгка перашкод — 12-16.12. яны могуць аказацца найбольш знамянальнымі. Самотная Рыба мае шанцы на стабільную сувязь з братняй душой. Атрымаеш салідную падтрымку ад радні і сяброў. Асабліва нейкі сябра моцна падтрымае твае шалёныя задумы і многа ад яго навучышся. Не лячыся сам. Не плануй дарагіх пакупак і інвестыцый.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.



# У палескай глыбінцы (25)

У Перабродах я дасведчыла прысмаку бурштынавай гарачкі. У сяле былі ўжо шчасліўцы, пра якіх народная прыказка гаварыла так: *не думалі жыць багата, а прыйшлося!* Нягледзячы на забабоны і народныя павер'і, якія перасцерагалі перад залішняй хвальбой, тут адкрыта дэманстравалі багацце.

Вось у пачатку сяла новы бурштынавы мільянер узводзіў драўляны дом. Наўкруг разносіўся пах свежай жывіцы. Паміж паверхамі прасторнага будынка завіхаліся будаўнікі. Хлопцы працавалі ў рытм бойкіх казацкіх маршаў. Усюды ламаталі малаткі, хтось даказваў, хтось рагатаў. Работа проста гарэла ў руках.

— А што калі ўлады запатрабуюць даказаць крыніцы заробку?

— Гэта не праблема, — адказаў Юры. — Скажа, што ў Маскве зарабіў.

* * *

Яшчэ два гады таму ніхто ў Перабродах не гаварыў і не думаў пра янтар.

— Гэта прыйшло ад палякаў, — гаварыў Юры. — Яны пачалі капаць каля Любліна, на польскім Палессі. А нашы пайшлі следам геалагічнай падказкі. Пошукі засяродзіліся больш-менш па лініі Прыпяці, пасля рушылі на поўнач і поўдзень. І што атрымалася? Што палешукі жывуць на залежах якаснага бурштыну.

— Наш янтар цэняць вышэй за калінінградскі, — адзначыў з гонарам мой гід. — Яго ўжо капаюць у Беларусі, хоць там усё кантралюе рэжым. Аднак апошнім часам яны сталі прыязджаць да нас па тавар, відаць, ужо самі з кітайцамі дагаварыліся....

Раней усю сыравіну кантрабандай адпраўлялі ў Гданьск. Там яе апрацоўвалі і высылалі далей, пераважна ў Кітай. Мода на бурштын пачалася ад алімпіяды ў 2008 годзе. Як не цікава, спрацавала жыццёвая вынаходлівасць. Польскія фанаты спорту, каб вярнуць грошы за білет на самалёт, навезлі з сабой на гандаль усякіх фінціклюшак і аздоб з бурштыну. А кітайцы, як старыя гурманы, адразу дацанілі, рассмакаваліся. З-за гэтага цана вырасла ў пяць разоў. Людзі адразу знюхалі заробак. Ва ўсіх сёлах, што ў Дубровіцкім раёне, як грыбы пасля дажджу актывізаваліся групы нелегальных капачоў. Хто прыналежыць да такой банды? Звычайна ўсе маладыя мужчыны. У Перабродах гаварылі пра дзве канкурэнцыйныя суполкі. Яны спаборнічалі і ваявалі між сабой за найлепшыя месцы. Усе, аднак, былі вымушаны трымацца ганаровага закону.

* * *

Мой апякун, праваслаўны артадокс, відавочна не далюбліваў пяцідзясятнікаў ды называў іх *штундамі*. (Клічка «штунды» паходзіць ад нямецкага слова «штудзірэн», у адчуванні пратэстантаў, якія самі сябе называюць «веручымі», слова гучыць адмоўна.). У яго недасказанасцях адчувалася прытоеная інтрыга. У канцы аказалася, што ў Перабродах між канфесіямі ідзе спаборніцтва не толькі за лік сыноў у сям'і. Таксама па лініі веравызнання праходзіў падзел на канкурэнцыйныя банды капачоў бурштыну.

— Гэтыя *штунды* ніякіх прынцыпаў не трымаюцца, — абураўся Юры. — Нядаўна разрылі загон чалавеку, у якога поўная хата малых дзяцей. Той прасіў: *злітуйцеся, хлопцы, без бульбы галадаць будзем*. То праваслаўныя хлопцы пашкадавалі, абмінулі іх поле. А тыя палезлі як свінні ў рэпу. За ноч усё бульбянішча вывернулі дагары нагамі. Уся пасадка змарнавалася.

— І што цяпер будзе?

— Пабачым, як яны разбяруцца.

— у апошнім сцвярджэнні пахнела племянным лінчам. — Такога нельга аставіць без пакарання. Найхутчэй, грашыма таму чалавеку, выплацяцца...

— Не лепш вызваць паліцыю? Хай гэтых жулікаў арыштуюць і аддадуць пад справядлівы суд.

— Мянты не схочуць цягнуцца ў Пераброды, — махнуў рукой Юры. — Ім шкада сваіх дарагіх машын на нашу выбоістую дарогу. Ды ім да нас не па дарозе, невялічкі тут бізнес.



Лес пасля паходу капачоў

раў. Да кладаў дабіраюцца з дапамогай спецыяльнай пажарнай мотапомпы. Паколькі янтар лёгкі, ён выходзіць наверх разам з вадой і пяском. Месца пасля раскопак напамінае поле пасля ваенных манеўраў. Такое поле адразу раўняюць бульдозерамі, прывозяць зямлю і садзяць лес.

Юры адзначыў, што мясцовае земляробства хутчэй напамінае гульню, чым сур'ёзную гаспадарку. Ад яго няма прыбытку. Асабліва цяжка гаспадарыць на «лядах» — палетках выкарчаваных у лесе. Гэта з-за празмернай колькасці дзікоў, якія развяліся ў апошнія гады.

— А ў вас няма афрыканскай чумы? — спытала я.

— Можа яна ёсць, але ў нас пра гэта не ведаюць, — Юры ўзрушыў плячыма. — Ды і нікому тая чума непатрэбная, бо ўсе гэтыя гаспадаркі на пясках працуюць толькі на хатнія патрэбы. Людзі, асабліва старэйшыя, не могуць жыць без работы. Мая маці не ўяўляе такога, каб не пасадзіць загон бульбы. Нічога, што прыйдуць дзікі і ўсё сцярэбяць...



Свідравіна, зроблена дзікімі капачамі бурштыну



У апошнім сцвярджэнні адчувалася маленькае задавальненне.

* * *

Яшчэ ў той самы дзень наведаю бурштынавае «эльдарада» каля Дубровіцы. Гэтае легендарнае месца прыцягвае капачоў з цэлай Украіны. Янтарныя гнёзды знаходзяць ужо на глыбіні паўтара метра ў зямлі. Шмат аматараў бурштынавай гарачкі капае ямы ўручную, звычайнай лапатай. Такія спосабы не спрацоўвуюць у Перабродах, бо іх бурштын прыхаваны ў зямлі на глыбіні дзесяці-пятнаццаці мет-

Юры адвёз мяне з Перабродаў у Дубровіцу і там «перадаў» у рукі знаёмаму, які ўсё ведаў пра нелегальную здабычу і гандаль бурштынам. Разам наведаем бурштынавае «эльдарада»...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960